Андрэй Хадановіч

# Дэжа вю: перавыбранае

*Я кнігу маю –*

**Вершы з пяці кніг**

## З кнігі “Старыя вершы” (2003)

### *Ноч у мытні пры старым замку*

Сам насам са швэдрам, што кінуты ў кут,
сам насам са страчаным часам,
сам насам з уласнай прысутнасцю тут,
са столькім, што ўжо не сам насам, –
знадворку, бо замак замкнуты стары,
на пекную гледзячы зорку
(знадворку адносна ўсяго, што ўнутры, –
так блізка, што ўжо не знадворку),
нарэшце стамлюся ад словаў, чужы
у некалі скончанай спрэчцы,
нарэшце спынюся на самай мяжы –
так позна, што ўжо не нарэшце.

### *Выбар*

я абіраю вольнасць
як абіраюць бульбу
атожылак пінскай
пасля панямонскай
нарэшце чарнобыльскай
шляхты
(што сынку дапамаглі табе
гэтыя ш-ш-ш-ляхі?)
які атруціўшы атрамант
амаль не зважае на лямант
бо покуль не момант
скуголіць раўці турбавацца
праз нейкія там бел-чырвона-
белыя плямы на мапе
згвалчанай калісь Еўропы

### *Падшпарак-Пачварак*

Я завуся Падшпарак-Пачварак,
бо паводжу сябе вельмі дрэнна.

Я аматар падступак і сварак;
не чытайце маралі – дарэмна!
Каб дабро пацярпела фіяска,
я гатовы пайсці на злачынства…
Ах, спадар буржуін, калі ласка,
запішыце мяне ў буржуінства!
Адчуваю нашмат сябе ўтульней,
як залажу ў чужыя кішэні.
Пагуляць у дарослыя гульні
запрашаю – прымі запрашэнне!
Я юнак-падсвінак, юны злодзей.
Спадары, пашкадуйце дзяцінства:
я з маленства жыву на балоце –
запішыце мяне ў буржуінства!
Я страшэнна хачу бочку сочыва,
я страшэнна хачу кошык печыва,
а маё сэксуальнае рэчыва
ўсё чакае чагосьці жаночага!
Вам прадамся за смачную булку
(толькі страўнік – крыніца адзінства!),
палітычнага дайце прытулку –
запішыце мяне ў буржуінства!

### *З лістоў Івана Жахлівага да Н.К. Крупскай*

Богу роўным станецца той смяротны,
Што будан сямейны з табой раздзеліць,
Раявацьме поруч з такою порсткай,
Палкай кабетай!
Твой пяшчотны голас пачуе зблізку,
Любы твар убачыць у сне й наяве,
Лёгкае дыханне па кроплі вып'е
Ў цёмных прысадах!
Навярзе на вушка нясціплых рэчаў,
А пасля занурыць у пацалунках:
Пацалуеш раз, а юрлівым вуснам
Хочацца болей…
Дай яму спазнаць і дабра, і ліха,
Дай яму сарваць незямное веды

З дрэва каталогаў тваёй машыны
З назваю “*Apple* ”!..
Мушу скончыць ліст: пару пільных справаў
Маю вырашаць, а найперш – павешу
Ўсіх стральцоў. Чакаю твайго адказу.
Ваня Жахлівы.
*1 крэсавіка 598 (?) да н.э., выспа Віскас*

***Львоў***

*Юрку Прахаську*

Адапхнуцца ад Ратушнай вежы ды рынуцца ў бездань,
каб магутныя крылы паноўных над местам званоў
падхапілі, панеслі, загойвалі даўнюю бессань,
зануараючы ў фарбы ляткіх недабачаных сноў.
Бессэнсоўна лунаць, абмінаючы стрэчныя вежы,
прамінаючы коміны ў іхнай цаглянай красе.
І спачыць ад палёту, і пасвіць начныя відзежы
на бляшанай, старой, незнаёмай з дахоўкай страсе.
Назіраць, як у шпацырах вечар праводзяць львавяне,
па спякотных гадзінах лагодны вітаючы змрок,
удыхаючы водар з густоўнай павохнай кавярні,
пад павекамі цемры павольна губляючы зрок.
Усміхацца разумнаю ўсмешкай крылатага блазна
жабраку, што пры цэрквах на вечных жабрачых правах.
А калі заманецца агледзець усё падрабязна –
і самога сябе нечакана знайсці далавах.
Заблукаць, загубіцца, заблытацца, трапіўшы долу,
ў камяніцах, дзе *genius loci* дагэтуль жывы.
Са шматлікіх святыняў аддаць перавагу касцёлу –
пасля шклянкі-другой каньяку ля армянскай царквы.
Ля муроў Бернардынаў піць піва з вядомым паэтам;
калі ж зноў скалане наваколле стрывожаны спіж,
павучынай сягнуць па-над галіцкім бабіным летам,
як паветраны змей, самагубна ўзлятаючы ўвыш…
Заблукаўшы ў паветры, прасторы, няздзейсненым міце,
каляровы матыль, папяровы кітайскі дракон
патанае ў блакіце, блакіце, блакіце, блакіце…
І вялізарны звон пераможна плыве наўздагон.

## З кнігі “Лісты з-пад коўдры” (2004)

### *Лісты з-пад коўдры*

праз акно месяцовы поўраз
апускаецца па крывой
я не бачу
залез пад коўдру з
галавой
навісаюць словы хадульна
расстаўляюць пасткі пасты
а пад коўдрай цёпла і ўтульна
і нястрашна пісаць лісты
будзе рады палкоўнік маркес
і астатнія пацаны
асцярожна ступае накрас
клышаногі й трохі п’яны
не кампутарныя крамзолі
а жывое рукі сляды
хай баляць на пальцах мазолі
не бяды
бо нашто электронная пошта
калі проста так не ў пару
немавед пра што і навошта
немавед каму гавару

### *Калыханка для маладога літаратара*

Кукалка, каўшанка, хрызаліда,
лялечны зародак вышыні!
Досыць гідкіх фарбаў краявіду,
іншага няхай грызе агіда!
Супакойся, мілы, адпачні!
Спі, дзіцятка, птушкі *ўжо паснулі* ,
зоры ў неба *па ваду пайшлі* .
Кукавадла вусцішнай зязюлі,
люлі-люлі, прыляцелі кулі…
Стала ціха на усёй зямлі.
Засынай, загорнуты ў анучы.
Пасталееш хутка ў барацьбе.

Спі, выратавальнік наш прыйдучы:
у абладзе фюрэра і дучэ
спадзяемся толькі на цябе!
Некалі ў варожым наваколлі
возьмешся з расою за кассё
беларускай мовы, і ніколі
не забудзеш, што вучыў у школе:
геній у адказнасці за ўсё!
Зведаеш, што значыць акавіта,
і спазнаеш поспех у кабет;
станеш апранацца самавіта,
станеш выражацца сакавіта,
станеш карыстацца з "алфавіта"
і забудзеш слова "альфабэт"...
Хрызаліда, кукалка, каўшанка,
запарука крылаў матыльку,
дурню – радасць, знаўцу – абяцанка, –
слухай, як лунае калыханка
на халодных крылах скразняку.

## ***З чаго пачынаецца Жодзіна?***

З чаго пачынаецца Жодзіна?
Дальбог, не з машыны "БелАЗ"!..
Я сёння святкую народзіны:
Як што, запрашаю і вас!
Пад месяцам, сонцам і зоркамі
Балюе з суседам сусед.
Як сцвердзіў паэт, і паморкамі
Ёсць час для сяброўскіх бясед!
Як не, адмаўляйся без сораму –
Шмат ежы на Белай Русі!
Пад месяцам, сонцам і зорамі
Ўсяго ўсё адно не з'ясі!
Шчэ больш на зямлі – мама родная! –
Харошых ды розных кабет;
Ды не пакахае ніводная,
Хоць руш у манахі ў Тыбет!
Сігаеш за пекнымі паннамі,

Ды марным стаецца твой сіг.
І ўсё ж не памрэм занядбанымі,
Бо Жодзіна дбае пра ўсіх!
Сардэчнымі словамі, поўхаю,
Прутом, бізуном, рамянём
Гадуе, кунежыць, выхоўвае.
І большай ні ўночы, ні днём
Нас песціць не знойдзем аматаркі.
А як адыходзім да сну,
Вачыма ласкавае мацеркі
Глядзіць у калыску й труну.
Пільнуе ды сочыць паводзіны,
То хваліць, то ставіць у кут…
З чаго пачынаецца Жодзіна?
Яно пачынаецца тут…
За мрой экзатычныя спецыі,
За праўду ў айчынным віне,
За *Grande Canale* ў Венецыі,
Які не гайдае мяне;
За госця, няйначай татарына,
Нязванага сябра твайго;
За Катадру Нашай Спадарыні,
Якая смяецца з Гюго;
За сверб разумовага голаду,
Што я спаталяў задарма
Агнямі вялікага гораду,
Якому найменне няма, –
Чым стане мне змогі, аддзячу я
Найлепшай у свеце зямлі –
За першыя крокі дзіцячыя,
За першыя слёзы, калі
Бацькамі бяз жалю-без літасці
Быў гнаны ў дзіцячы садок…
Што будзе пасля – акалічнасці,
Галоўнае – першы радок!
Пачатак, прывабныя ўводзіны
Жую саладзенькім дражэ:
З чаго пачынаецца Жодзіна?
З разгалістай літары “ж”,
Як жонка, жыхарства, жыдоўская

Жахліва жывая журба,
Жабрацтва, журы, “Жыгулёўскае”,
“Жызэль”, “Жэрміналь”, жажаба,
Жырафа, жаўрук з журавінаю,
Жыгучка, жаўнер, жалуды,
Жаданне жывіцца жанчынаю,
Жартоўнасць жыцця без жуды…
Славутую песню каверкаю,
Карціны ўстаюць уваччу.
Пытанне гаркавай цукеркаю
У роце смакую, смакчу, –
Як гронку чырвонай смуродзіны.
І тахкае сэрца ў грудзях.
З чаго пачынаецца Жодзіна?..
І ці абяцае працяг?

### *Бармэн-сюіта*

На тытунёвай фабрыцы жанчыны
чатыры дні таму без дай прычыны
абвесцілі агульны лакі-страйк,
і ў бары прыбыло слабога полу:
ціхманы апускае вочы долу,
затое для залётніка – клондайк!
Наш бар – утульны, танны і спакойны:
сусветныя паскончваліся войны
і не сваволяць зброяй землякі.
А па-за тым, наш бар – на параплаве,
і лярвы, не забітыя ў аблаве,
бухаюць на сярэдзіне ракі.
Была адна, што больш за ўсіх бухала
й не апускала веек-апахала,
стыдаючыся позіркаў гасцей.
Яна была па пашпарце цыганкай,
паводле звычак – нашай выхаванкай
і ўвагі нашай знакі найчасцей
“зялёнымі” прымала і “капустай”,
ды яўнай не займалася распустай,
бо замужам была, хоць сужанец

часова кукаваў без сужаніцы,
за кантрабанду седзячы ў вязніцы:
злавілі на гарачым – і канец.
Фліртуючы з сумнеўнымі сябрамі,
яна чакала пры турэмнай браме,
пакуль яе прапусціць вартаўнік,
што стаўся сведкам ейнай прыгажосці
і дзень пры дні чакаў красуню ў госці –
і пачуцця фатальнага не ўнік.
Ён прагнуў, каб аднойчы, у Севільі,
ягоны сон яны ажыццявілі,
пабраўшыся ў мясцовага айца…
Ён не чытаў “Кармэн” – быў непісьменным.
А я на параплаве быў бармэнам
і бачыў гэту драму да канца.
Няшчасны вартаўнік паходзіў з баскаў
і з недаверам ставіўся да баксаў,
і шлях, якім пайшоў ён, быў цяжкі:
ён дарыць краскі, краля – анігадкі,
ні гваздзікі не ўражваюць, ні бра́ткі,
бо іншае дарылі ёй браткі́.
Ён трызніў у душэўным неспакоі,
начамі паўтараў імя, якое
мы блыталі то з кармай, то з кармой.
А здрадніца сядзела ў нашым бары
і, не знайшоўшы ніштаватай пары,
маркотна частавалася хурмой…
На параплаве музыка іграе,
канчаецца трагедыя старая:
прыбылы з Андалузіі нацмен
у бар наш урываецца без маскі
і, крыючы па-мацеры па-баскску,
страляе ў беспасажніцу Кармэн:
“Ну дык не даставайся ж ты нікому!”
Юрлівіца правальваецца ў кому,
а там адно цямрэча й цішыня…
А заўтрашні Высьпяньскі (ці Астроўскі)
нацешыцца й забудзе па-матроску,
як востраў (выспу) ўчорашняга дня.

## *Калі разгуляецца...*

Люблю навальніцу на свята працоўных,
калі разгуляецца ў небе пярун,
а тут, на зямлі, са стыхіяй на роўных,
свой верш прамаўляе паэт-гаварун.
Нябёсы маланкай міргнуць дабрачынна,
вясновую зліву ўзмацніўшы ўтрая, –
прамокне наскрозь чарнявая дзяўчына,
прынада, прынада, прынада мая!..
Да хаты вяртаецца ўдзячная моладзь
з дзіцячых садкоў беларускіх і школ,
нябеснага бацьку ў Жыровічах моляць,
каб шчасце ды мір панавалі вакол.
На ўсходзе даўно не здаралася путчаў,
на захадзе хутка дазволяць аборт,
а шчасны паэт, не раўнуючы Цютчаў,
чакае натхнення, пускаючы “word”.
Ён будзе пяяць пра сюжэт старадаўні.
Пра іншае, дружа, пакуль памаўчы!
Як кожнага году на першага траўня,
галоўнае свята пачнецца ўначы.
Курган векавечны амаль раскапаны,
і хутка натоўп неразумных хазар,
вампіры і ведзьмы, залётнікі й панны,
калонай памкнуць на славянскі базар!
Сябрына на шабаш, бы спожыць у кайстру, –
без лебедзяў чорных і белых варон.
І кожнай Мальгрэце – асобнага Майстра,
і кожнаму Фаўсту – уласны патрон.
Шатаны, анёлы, багі, дэміургі,
прыходзьце, нясіце дары ў дарасхоў:
зямля беспасажна-цнатлівых Вальпургій
дагэтуль чакае сваіх жаніхоў!

## *Вольны муляр*

Я буду будаваць сабе кватэру,
з буслам на даху й Будам на сцяне.

Не бунгала, не будку бультэр’еру –
бетонны бункер – не разбурыш, не!
Каб днём бурлескам бузаваць паперу
і бударажыць будуар у сне.
Будуючы, у будучыню веру…
Хоць з бадуну нам рай і ў будане.
Будуйма! А падтрымкай нашым будням –
Сямён Будзённы із Сымонам Будным,
Афрык Сымон (музыка), дзядзька Сэм,
Сім, Хам, Яфет… Збудуйма нармалёва
і Будапешт, і Буда-Кашалёва,
Буэнас-Айрэс, Бургас, Бэтлеем!

## ***Няўлоўныя мсціўцы***

Нам калыханкай сталіся здаўна
гарматны гул і кулямётны строкат.
Мы часцяком спыняліся за крок ад
смяротнай бліскавіцы й перуна.
Паслоў варожых пасылалі на…
Блукалі па балотах, жэрлі блёкат,
пілі атруту і, паснуўшы ўпокат,
цвярозымі ўставалі давідна.
Без мараў пра хвалу і ўзнагароду
жыццё аддаючы ў імя народу,
на вогнішча ішлі, як Жанна д’Арк.
Бо кожны з нас да звышгеройства звыклы,
і вораг часта бачыў нашы іклы,
заходзячы ў мясцовы заапарк.

## ***Chansons de geste***

*1.*
Дзіўлюся намаганням чалавечым:
забыўшыся на пляшку і графін,
чытаннем зрок над свечкаю нявечым –
і льецца на старонкі парафін.
Лепш смерць ад кніжнай плесні ў галаве, чым

тэлевізійны бог, Ісус “Навін”.
І трызніць уначы сераднявеччам
амаль абеларушчаны ліцьвін.
Ён там, дзе воі гінуць на адхоне
і трубіць Аліфант у Ерыхоне,
і лопаюцца скроні трубача.
Па даўняй гераічнай завядзёнцы
хаўтурны стол чакае крумкача –
і Шарлемань Бэн Нун спыняе сонца.

*2.*
Дванаццаць пэраў – у адной палаце:
дыягназ просты – печаняў цыроз.
Ім лекар, што сядзіць тут на зарплаце,
паліць не дазваляе папярос.
Спіць Аліўе, чый твар даўно ў салаце:
ён марыў паглядзець Ралан-Гарос,
а бачыць Ганэлона ў маскхалаце,
што зросся па кавалках і ўваскрос.
Першасвятар Турпэн, зацяты вернік,
дазнаўся, што на свеце быў Капернік
і не было нязрушнае зямлі.
Ой, Госпадзе, нябесны абаронца,
калі зямля бяжыць наўкола сонца,
дык што ж тады спынялі каралі?!

## ***Вагнер. Тэтралогія “Фаўст”***

*І. Пра-Фаўст*
Ён век тапіў у ведзьміным нектары,
як сведчыць знакаміты фаліянт;
пяяў для Грэтхен нават без гітары,
і спеў быў найчысцейшы, як брыльянт.
Пасля ў вар’ятні білі санітары
(няспраўджаны дагэтуль варыянт).
Агент “0,7”, кароль усёй шклатары,
ягоны цёзка і фаміліянт.
Цяпер яго не вабяць пагулянкі:
а мо шатэнкі й насамрэч шатанкі?

Не, досыць! Ён *адгарцаваў* сваё!
Як радца, мае ў Ваймары заробак,
чытае Аляксандра-бацьку, то бок
прыгоды д'Артаньяна й Рышэльё.

*II. Бессань у ноч Вальпургіі*
Праз горы й красавіцкі начны холад
у месяц травень рушыш напрасткі.
У небе два сузор'і – Серп і Молат –
плывуць, прычым у розныя бакі.
Красуня на мятле й рагаты волат
мілуюцца й скавычуць, як ваўкі;
твой сябра Мефістофель (ён жа – Воланд).
Што за народ? Вядома ж, землякі,
што раз на год збіраюцца на Гарцы.
Кульнуць па чарцы ды з'ядуць па скварцы –
і браму пекла разаб'юць ушчэнт.
І ўратаваны шараговец Каін,
як гаспадар ад Брокену да ўскраін,
паўсюдна здзейсніць поўны хэпі-энд.

*III. Гамункул*
Каспара, Мельхіёра й Бальтазара
не будзе – я не веру ў трох цароў.
З набыткамі вяртаюся з базару,
каб хлопец не застаўся без дароў.
Мне ж падарункам – здзейсненая мара:
праз кропельніцу ўведзеная кроў
бруіцца ў жылах, ажыла пачвара,
ён нарадзіўся, Вагнер! Будзь здароў,
чатырохкротны доктар і магістар,
загартаваны ведаю філістар,
няўдзячны імітатар хараства,
ледзь не забіты сківіцай аслінай!
Ты па начах над колбай пырскаў слінай –
і стаўся зоркай новага Раства!
Але памрэш, як жыў, – напаўраслінай.

*IV. Галена*
Ты ўзнёс у ейны гонар не хаціну –

гатычны замак, велічную цвердзь.
Схуднеўшы ад кахання на трацiну
й цвярозы розум страціўшы на чвэрць,
намаляваў уяўную карціну:
любоўны вір, пяшчотаў кругаверць.
Ды творацъ неадольную плаціну
яе каханкі, час, прастора й смерць.
Ты прагнеш немагчымага, упарты,
з нябыту клічаш валадарку Спарты,
царыцу старажытнагрэцкіх сноў.
Ды мара не скараецца нахабу:
над прывідам схіляешся – і зноў,
гаротны, узасмокт цалуеш жабу.

## *Вавілонскі праект*

*1.*
Марнеюць у гародзе буракі,
ні часныку не вырасла, ні кропу:
вось радасці суседу-мізантропу,
што пяты год не падае рукі!
А ў хаце, без цукерак і сіропу,
пакутуюць самотна хлапчукі:
не хочуць рускамоўныя бацькі
пускаць іх у пясочніцу Еўропу.
Як пусціш? У тамтэйшых дзетак спрэс
грашовы інтарэс і пулярэс,
а іхныя бацькі – зірні на пейсы! –
героі найпачварнейшых легенд –
гандлёвец, здраднік, хлус, інтэлігент –
жыды, касмапаліты, еўрапейцы!

*2.*
Не, мы не проста бавімся ў пяску –
падмурак новай Вавілонскай вежы
будуем на памежжы. (Рым нясвежы,
ды скуль жа іншы возмецца ў радку?)
Канструктар “Lego” возьмем у руку…
Дарэчы, што за дзіўныя відзежы?

Вандроўны цень у форменнай адзежы
па нашым шнырае мацерыку.
Хто там ідзе? Мо ўласную харызму
нам дэманструе прывід камунізму?
Маг Бальтазар? Маэстра Картасар?
Не, гэта з пошты тупае палкоўнік:
нарэшце ліст – і ён бярэ каркоўнік,
па-еўрапейску кажучы – гляйс ***а*** р.

*3.*
Не тую парыжанку, што ўсе вы
шануеце не менш за Мону Лізу;
не іншую, чый кругаслуп крывы
на ўсе вякі праславіў горад Пізу;
не тое дзіва, што сярод Масквы
сасной палала ад гары да нізу, –
не, нашая не схіліць галавы
дый у Еўропу нам адкрые візу!
Складзем на вежы з вершаў пра чабор
дыхтоўны беларускі кнігазбор,
што апявацьме Борхес невідушчы…
А мо наўкола пасадзіць лясы
і жыць, як у Гусоўскага часы,
у нетрах Вавілонавежскай пушчы?..

*4.*
Не хопіць у пясочніцы нам гліны,
каменьчыкаў стае адно ледзь-ледзь,
а мы ўсё лепім крохкія цагліны,
каб нашай пабудове ацалець.
Будуем казематы, равеліны
і кажам: “Трывалейшыя за медзь!”
А словы сэнс мяняюць штохвіліны,
і аднадумцам цяжка зразумець.
Мы ім: – Каштоўны скарб Старога Свету!
Друкарства! Рэфармацыя! Асвета!
Навука! Гільятэн і Франкенштэйн!
Грамадская й Шэнгенская дамовы!
Кілішак дваццаціпяціграмовы!
Еўропа, разумееш?! – Ніхт ферштэйн.

## *Маленькі жабрак*

Я ведаю, няма тваёй віны
ў тым, што кагось прыручыш алкаголем.
Учора ўночы мне прысніўся Голем,
пітушчы прывід пражскае вясны.
Кітайскім матылям тлумачым сны,
а раз на месяц роспачна скуголім
на месяц – голым каралём дэ Голем
з кінэматаграфічнай прасціны.
Раскоша чалавечага сумоўя,
цяпельца выпадковага зімоўя…
Тапелец, што прачнуўся ў немавед
якім паветры без вады і сябры,
спрабуе надзімаць пялёсткі-жабры,
самотнай ружай кінуты ў сусвет.

## *Трамвай "Жаданне"*

*Остановите, вагоновожатый…*
М. Гумілёў

Ты пустазеллем у цяпліцы вырас
і хутка забадаў усіх, бадай…
І рвецца з вуснаў нецэнзурны выраз,
хоць іншаземцу чуецца: "must die!"
Нясеш па свеце небяспечны вірус:
замураваны ў бомбе самурай,
ляціш з нябёсаў і сягаеш віру з
небеларускім воклічам "банзай!"
Нібы забыты лірыкамі топас,
блукаеш па начах, п'яны аўтобус,
ці карабель – у акіяне слоў…
Ты са слупамі загуляўся ў кеглі
і йдзеш на дно, а пасажыры збеглі,
як толькі флейту ўзяў пацукалоў.

## *Паслямова*

Ты занураўся ў сене, нібы ў Сене,
з цыганскаю красуняю Кармэн,
ёй недарэчы дарачы насенне
й нічога не жадаючы ўзамен.
Пара збіраць плады, цяжар асенні
узважваць, ды марнее твой бязмен.
А ты ўсё прагнеш боўтацца ў басейне –
мяркуеш, што дагэтуль супермэн.
Ты б мог сягнуць вышэй за пірамiды,
але ў кампутары Семірамiды
твой сад завіс яшчэ ў палеаліт.
Гадуючы жыгучку і дзядоўнік,
чакаеш, покуль з'явіцца садоўнік,
які націсне “ctrl”-“alt”-“delete”.

## *Дачакаць!*

Чаканне каштоўнейшае за чаканку
старых медалёў, старажытных манет.
Чакаць ганарару, навінаў, каханку,
што ўночы наведае праз “інтэрнэт”;
чакаць, што знаёмыя вернуць пазыкі,
і клясціся больш не даваць напавер;
чакаць, што паўстане народ без'языкі,
калі пасля дожджыку будзе чацвер;
чакаць, і пад томам “Сымона-музыкі”
у пыльнай шуфлядзе трымаць рэвальвер.
Чакаць, калі здарыцца Раз Назаўсёды,
з надзеяю гледзячы за далягляд.
І вось дачакацца, калі не свабоды,
дык першых у новай эпосе каляд.
У міры ды згодзе, са смехам дый годзе,
на стол пачастункі паставіць свае
і ў першага-лепшага тысячагоддзя
спытаць: “Трэцім будзеш?”
А раптам не п'е?!
Усе атрымалі святочныя грошы,

засмажылі тлустую смачную гусь
і жджэм, што апоўначы самы харошы
з экрана прамовіць “Жыве Беларусь!”
А мы ап’янеем, губляючы розум.
Закружыцца галаў ад мрояў і кроз.
Міколка, што некалі быў Паравозам,
а сёння ўвіхаецца як Дзед Мароз,
ізноў распачне навагоднія жарты,
снягуркі апрануць свае кімано
і сядзе дасведчаны шулер за карты –
гуляць са стагоддзямі ў “дваццаць адно”…
А стрэлка праходзіць апошні адцінак.
(Два тысячагоддзі – на ейным баку!)
Зязюля падкінула яйка ў гадзіннік
і хутка ўсясветнае грымне “ку-ку”.

## *Прадмова да Кнігі Юдзіф*

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
дзе бароняць звяры сваіх нораў;
дзе рахманыя пчолы бароняць вуллі,
пазабыўшы пра мірны свой нораў;
дзе пра галаў тваю гільятына пяе,
дзе бароніць пятля тваю шыю,
птушкі гнёзды зацята бароняць свае
й беларусы бароняць чужыя;
дзе Заслонава прывід стаіўся ў траве
і штовечар паненак лякае –
памяркоўная нацыя ціха жыве,
толькі гутарка ходзіць такая:
*што анёлы бароняць крылаў сваіх,*
*каб не ўмёрлі;*
*што шатаны бароняць рылаў сваіх,*
*каб не ўмёрлі;*
*што тапельцы бароняць сваіх віроў,*
*белавежскія пушчы – сваіх зуброў,*
*бэтлеемскія зоры – сваіх цароў,*
*каб не ўмёрлі;*
*што сярпы бароняць сваіх каласоў,*

*каб не ўмёрлі;*
*што ткачыхі бароняць сваіх паясоў,*
*каб не ўмёрлі;*
*кожны першы бароніць сваіх другіх,*
*найлягчэйшы бароніць іншых, цяжкіх,*
*пагарджаных век, іх, сляпых, глухіх,*
*каб не ўмёрлі;*
*Беларусь бароніць сваіх Скарын,*
*каб не ўмёрлі;*
*Маргарыты бароняць свой маргарын,*
*каб не ўмёрлі;*
*невідушчы бароніць свой далягляд,*
*найсвятлейшыя панны – сваіх немаўлят.*
*Барані сваё й дажывеш да каляд*
*з беларускай песняю ў горле!*

***Раство на "Раствора-Бетонным"***

Раство на "Раствора-Бетонным".
Снежань за часам мясцовым.
Цяжка брысці мадоннам
у зімным святле месяцовым
ходзішчам незнаёмым
з ліпамі паабапал.
Вось Каспар пакрыёма,
нібы кульгавы д'ябал,
вось Бальтазар з батонам,
вось Мельхіёр з бітонам –
на пацеху мадоннам
крочаць "Раствора-Бетонным".
Слота вечная наша,
звыклы голад і холад.
Вецер made in Russia,
вецер made in Poland.
Паўзе апошні тралейбус.
Наступны прыпынак "Раствора-
Бетонны". Падпіты бэйбус
глядзіць на мадоннаў сувора.
Дзеўкі – ведзьма на ведзьме –

бавяцца ў тамагочы.
Месцаў мадоннам з дзецьмі
ніхто саступаць не хоча.
На мёрзлых шыбах узоры –
лотаць, канвалі, ружа –
банальна звялі – I'm sorry –
ад рыфмы банальнай "сцюжа".
Зімна крохкім бутонам.
Парай плыве гаворка.
Над "Раствора-Бетонным"
у небе спыняецца зорка.

### ***Гары Потэр, ліцэіст***

*Я нарваўся на шалёных троляў на польскай мяжы ды ў Менску крыху не паразумеўся ў бары з вампірам – а так усёнька было гладка…*

Дж. К. Роўлінг. Гары Потэр і Ордэн Фенікса

Гары Потэр, выдатнік у гуманітарным ліцэі,
пераможца на алімпіядах па бел-чырвона-
белай магіі, зноўку ў пошуках панацэі:
дух закону ці – па традыцыі – зуб дракона?
Бо ў газетах вусаты гоблін з кілішкам жытняй,
над мяжою ў паветры вісяць птушыныя коркі,
пошту з выраю рэквізуюць ужо на мытні
то шалёныя тролі, то оркі з Мар'інай Горкі;
бо дарога даўгая й рэклама задарагая,
бо сышлі ў шоў-біз настаўнікі ды сяброўкі,
бо чырвона-зялёная магія перамагае
й цуда-зёлкі ідуць на экспарт у складзе зуброўкі;
бо чароўнаю палачкай стаўся дручок гумовы
й барада тэрарыста-джына прамокла да ніткі,
бо ў астатніх школах не вучаць птушынай мовы,
а палёты на памяле спыняюць зеніткі;
галасы аднадумцаў гучаць з кожным днём ахвярней,
і штодня складаней трымацца нейтралітэту,
жлукціць безалкагольнае піва ў таннай кавярні
ў атачэнні занудаў з варожага факультэту…

Закаркоўвае пляшку й выходзіць на ліпеньскі водар.
Сквер Марата Казея, а ў пляшцы – кактэйль для цвярозых.
Ён, вядома, ізноў пераможа, бо ён Гары Потэр,
ратавальнік вялікіх дзяцей і маленькіх дарослых.

### *дэжа вю*

ажываюць персанажы анекдотаў
з падсвядомасьці выходзяць на пленэр
зноў матросаў закрывае дзіркі дотаў
зноўку бацьку падстаўляе піянер
льецца песня на далёкім паграніччы
у чальцоў кпсс пайшоў працэс
мудры чукча запалярны паляўнічы
стаў на лыжы з групенфюрэрам эсэс
падрывае партызан цягнік варожы
ў акупантаў перманентны пераляк
іх чакаюць ваяры на раздарожжы
тры танкісты рускі немец і паляк
прыходзіце сёньня ў танку будуць танцы
баявік ужо ўзышоў на бранявік
пралятае на тачанцы-растаўчанцы
кат катоўскі энергічны сілавік
камікадзэ супраць шашкі скача боса
куля дура камандарма не чапай
ардынарац пецька тройчы выдаў боса
крыкнуў певень і на дно пайшоў чапай
але прывід камунізму тут не вымер
ён глядзіць з чырвоных зорак п’яны ў дым
і ваван валодзя вовачка ўладзімір
назаўсёды застанецца маладым
арляняты гэй шыхтуйся ў шчыльны шэраг
паляцім куды не ходзіць наш цягнік
як не згубімся? элементарна шэрлак
нас чакае дасканалы праваднік
верным шляхам запаветамі дэ сада
верным шлюхам не застацца сёньня збоч
па вальпургіевай ночы шахразада
будзе вам варфаламееўская ноч

хто ідзе? штандартэнфюрэр са штандарам
прапар з прапарам выходзіць на прасцяг
шпаркім крокам проста ў будучыню шпарым
па кастрышчах па касцёлах па касцях
ананасы із шампанскім будуць нашы
хто не з намі пасмяротна стане наш
ажываюць персанажы персанажы
трыюмфуе неўміручы персанаж

***гарадскі раманс***

у год дваццаць восьмы як ты нараджэннем пацешыў айчыну
амаль выпадкова сустрэў ты дзяўчыну дакладней жанчыну
вы стрэліся з ёю на лесвічнай клетцы на сёмым паверсе
шыкоўныя ногі й даруй мовазнаўца адметныя персі
такое здарэнне такая падзея такая прыгода
між сёмым і шостым дакладней паверхам ля смеццеправоду
яна была роўнай блукаючай зорцы вандроўнай камеце
калі грацыёзна цябе абмінула выносячы смецце
без лішніх ілюзій без марных спадзеваў без подумкі задняй
яе ты праводзіў амаль да пярэдняй вітальні дакладней
ты крочыў у спальню з трымценнем хлапечым з дрыготкай юначай
нічога такога не меў ты і ў думках ды выйшла іначай
яна цалавала пяшчотней ад сонца за ветрык лагодней
ты зь ёй сустракаўся штодзённа а часам і двойчы на содні
ты быў шараговым амаль выпадковым і зрэшты чарговым
каханкам красуні ў цагляным будынку сяміпавярховым
а сэрца пяшчотай бруілася ўпотай дакладней каханнем
якое багомім кунежым і песцім руйнуем і ганім
з юрлівых і ўвішных збірае Ўсявышні нявернасці чынш і
цвітуць ужо вішні а потым віншую з’яўляецца іншы
падводзячы вынік мілосным турботам нядзелям суботам
а потым няпруха а потым запоі а потым а потым
а потым з балкону зрываешся долу амаль выпадкова
і лічыш паверхі і дзякуеш лёсу сяміпавярхова

## *альба альбарутэніка*

я стаю пры тваім акенцы
і пяю табе сэрэнаду
ты ў акне ў празрыстай сукенцы
мне гаворыш *мальчык ня нада*
я ж чаканю рым дубальтовы
й не пайду да ранку дамоў
на ўсіх мовах пяяць гатовы
(ты ня ведаеш гэтых моў)
па-японску як такубоку
па-кітайску як сам лі бо
я кахаю цябе глыбока
ты прымі гэту альбу альбо
засьпяваю новыя альбы
я давёў іх сёньня да ладу
перайду для цябе цераз альпы
і складу ня альбу баляду
эх пакласьці цябе на раяль бы
і такую ўчыніць карусэль бы
я цябе апяваю ў альбе
гэта як сустрэча на эльбе
гэта варта вершаў і прозы
й трызьняць альбаю ў неспакоі
альбіносы і альбатросы
альбігоі і проста гоі
напісаць пранізьлівы вершык
пра любоў пад мастом мірабом
зрымаваць традыцыйна зь “вершнік”
і пакінуць табе ў альбом
падбіраць беларускія словы
і крычаць іх адно табе
зразумелыя да паловы
і ня ўсім жыхаром эрбэ
у парыве літаратурным
барукацца зь дзявочым сном
трубадурам не трубадурнем
пад тваім замкнёным акном

* * *
Час перайсьці ад словаў да явы
(раяць курцы і матацыклісты),
толькі прыходзіць сон мой яскравы,
зыркія словы ў золак імглісты.
Ён наплывае, нібы знадворку,
покуль чуйную ў вадах і хібах.
Распачынае зьліва гаворку,
першыя кроплі граюць на шыбах.
Дэсантавацца ў сярэдзіну зьлівы,
высьніўшы словы, выславіць сон,
кінуўшы вонкі ў горад дажджлівы
свой параплаў, парашут, парасон.
Недзе на біржах падаюць баксы,
недзе на ладан дыхае Ўсама,
менскаю зьлівай дыхаюць таксы,
мокрыя таксы
й таксісты
таксама.
Толькі ўмыкнеш электронны папірус,
вецер ляціць шалапутны і файны:
як найнавейшы кампутарны вірус,
кружыць над местам усе твае файлы.
Марна шукаеш маркі й канвэрты,
марна чакаеш паслуг інтэрнэту.
Сеціва ўрыўкі лятуць у паветры –
пазачарговае бабіна лета…
Сьпелячы словаў смачныя сьлівы,
дыхаеш воляй – пад рэбрамі коле.
Дыхаеш зьлівай, дурань шчасьлівы,
мроячы не прачынацца ніколі.

## ***Геніюс у лодцы***

Трэція содні палюем на *genius loci* ,
менскаю зьлівай любуемся ў ілюмінатар.
Тры мудрагелі на жоўтай падводнай лодцы:
лепей захоплены катэр, чым схоплены катар.
Клёвыя мальцы, гарачыя менскія парні,

бы ў гермэтычную скрынку, скарбонку, шкатулку,
разам загнаныя ў нетры падводнай кавярні,
вонкі насоў не высоўваюць,
просяць прытулку.
У парцалянавы слоік хаваецца слонік,
покуль вада не сягнула вяршыняў камоды.
Моцныя выразы моўчкі хаваем у слоўнік –
у непагоду прыязнасьць вяртаецца ў моду.
Проста чакаць, дэгустуючы словы й напоі,
слухаць навіны ды ўважна сачыць за паводкай.
Катэр ці катар – дарэчы, абое рабое!
Мабыць, усё-ткі ў глыбіні падводнаю лодкай.
Азбука Морзэ вадой захлынаецца морскай,
долу зрынаецца неба, сьцякаючы рынай,
звабленае марадзёрскаю мараю дзёрзкай –
сьвет праглынуць і тваёй закусіць субмарынай …
Міжземнаморскае дзіва, каралавы ёлуп,
будзеш вякі вандраваць пад вадой аўтастопам…
На гарадзкой тэлевежы ўскудлачаны голуб
устурбаваны чарговым сусьветным патопам.

* * *

Ён спускаецца зь першай зьнічкай
і пільнуе нас на рагу.
Набывае душы са зьніжкай
дробным оптам і на вагу.
І тваю хацеў бы пакратаць
пад рыданьні і горкі сьпеў.
А ў яе вялікая радасьць –
не пасьпеў, сябрук, не пасьпеў!
І прыходзяць магі і прынцы,
і пытаюць тваю душу,
а яна: “На сусьветнай ялінцы
навагодняй цацкай вішу!”
І заводзяць танец пагоркі,
і сьпявае п’яны трысьнёг,
і гарацць бэнгальскія зоркі,
і душа ў сьвяточных агнёх!

Не зlавіць яе ў чыстым болі,
у чыстым шчасьці шукаць дарма.
Вязень-вусень даўно на волі.
Дзе ты, аніма?
А няма.
Ні канвою ў крылатых ботах,
ні анёла спраўдзіць білет…
Угары, як апошні подых,
растае інвэрсійны сьлед.

***размовы з экерманам***

мысьлю значыць яшчэ жывы
каб любіць пярдолю на вы
быццам івіка журавы
на палесьсе да беларусі
бо я ўмею лётаць у сьне
не тану ў айчынным лайне
і на самым глыбокім дне
покуль дыхаю спадзяюся
паталухі гашыш віно
два такія жыцьці за адно
толькі каб не зусім лайно
позна ворагі за ракою
ты ня вер што рады дамо
камісар суцэльнае чмо
*nevermore* крумкач *nevermore*
не кружы над маёй башкою
увачч у стаяць міражы
дзе радзімыя рубяжы?
ад маркоты і настальжы
на шчацэ ўскочыў фурункул
той куточак перада мной
толькі скронь зіхціць сівізной
што сьмярдзіць? натуральны гной
у рэторце падох гамункул
усё для дзетак бацька мінай
будаўніцтва распачынай
хай квітнее (з)абраны край

а чакаць імгненьняў цудоўных
дармаедам забарані
хай майстры лядовай гульні
адпрацоўваюць працадні
ў змайстраваных табой лядоўнях
хай кахаюць баб мужыкі
партызаны рвуць цягнікі
прызвычайвайся сьвет такі
звычка нам другая натура
піянэрам скажы шалом
за радзіму гінуць аблом
дык зьбірайце мэталалом
усё іншае макулятура

* * *
кожны старт азначае фініш
і канчаецца альфабэт
толькі ўласнае “я” закінеш
у кірылічна-кілерскі сьвет
ён сьмяецца аж бачыш дзясны
бог з машыны
аўтар з аўто
на пачатку ня вельмі ясны
і далей невядома што
не тырчыш ад сьвету? тым горай
бачыш іншыя пад настрой
прагнуць кайфу кожнаю порай
кожнай парай кожнай парой
*ліст да сьвету* прыйдзе знадворку
ў панядзелак
адкуль? куды?
знойдзеш аўтарку да аўторка?
дасі рады да серады?
вунь мінак юнак недарэка
мутны погляд шчасьлівы твар
прэцца ў пошуках чалавека
чырванее пад вокам ліхтар
мудакі стаяць у мундурах
кулі-дуры стаяць у чарзе

покуль бард нахтыгаль прыдурак
ачмурэла вершы вярзе
брыдучы ў неймавернай мове
па скалечаным целе трысьця
паміраючы ад любові
да жыцьця

***падарожжа***

схіліўшыся ўначы да офіснае лямпы
што некалі правёў у кожны дом ільліч
глядзець на манітор дзе штампы штампы штампы
і кожны дабл клік як ваяўнічы кліч
сусьветнае лайно прымаючы варожа
як пералётны птах сапсець на правадах
а потым карабель пачатак падарожжа
сьпярша суцэльны жах а потым зьедзе дах
а навакольны сьвет хоць ты яшчэ падлетак
ня грэбуе табой і пад сябе грабе
сьціскаеш у кулак камяк нэрвовых клетак
і пераймае дых і вусьцішна табе
бяссоньніца гулец у словы словы словы
засмучаны габрэй вяршуе за сталом
ты сьпісак шындлера прагледзеў да паловы
і кожнаму з мужоў пасьпеў сказаць шалом
ня чуюць мерцьвякі а пераможцы сьвіньні
як скажа адысэй вярнуўшыся дамоў
каханьне багавіц патоне ў багавіньні
разьюшаным багом не да тваіх прамоў
раўнівыя мужы няверная галена
як сьцьвердзіў буалё адпраўлены ва ўтыль
п’яному караблю сем футаў па калена
парыскаму арго пасуе ўсякі штыль
і гумбэрт на вадзе й лаліта ў залюстроўі
паветраны пацук кажан на караблі
ты страціў наўсуцэль псыхічнае здароўе
ня ведаеш чаму і немавед калі
што ты гэкубе й што табе да той гэкубы
нябога гэракліт стаячая вада

траянскаму каню не зазірай у зубы
як гаварыў кароль паўцарства за дада
гуляюць у футбол аякс і макавеі
бязногі ахілес ганяе чарапах
спакусьлівая плоць бяз скуры ружавее
і цемрай зеўраюць вачніцы ў чарапах
нам троя й картаген дзіцячаю пляцоўкай
узброены амур нам проста авадзень
багіня-карабель з крывавай распальцоўкай
зь цямрэчы паўстае вітайма новы дзень

* * *

архівуй гэты плач
свой уздых да ліста прыатач
запусьці ў тэмпе згадак
па вялікай паштовай раўніне
для спакою душы
пасьля гумару смайлік пішы
і на ўсякі выпадак
пастукай па штучнай драўніне
кадаваныя сны
хай навобмацак рушаць адны
нетрываласьць маны
кірылічнаю глінай замесіш
дасканаласьць CV
парушае трымценьне ў крыві
а таму абарві
прафэсійна зацягнуты мэсыдж
у глыбокай начы
на *тутбаі* сваім вісячы
дзе ні сьвята ні будня
й гудзе электронна прастора
не пытай: хто ідзе?
то кругі па люстранай вадзе
каляровая студня
стрывожаны сон манітора

## З кнігі “Сто лі100ў на tut.by” (2007)

**@@@**
Каб мне першабытны талент – уся пячора
дзівілася б на малюнкі, дзе ўсюды – Вы.
Шанцуе, нібы тапельцу: ад самага ўчора
да самага сёньня глядзеў на Вас – і жывы!
І можна не чырванець – інтэрнэт стрывае
наскальнае шчасьце нахабнага вастрыя.
Як файна, што Вы – прыгожая і жывая!
І недзе – проста жывы – расчулены я.

**@@@**
Вы мне прызначалі спатканьне ля КДБ
і на будоўлі новай бібліятэкі,
у чыстым полі, дзе нехта граў на губе,
выцягваў гукі з разьбітай гітарнай дэкі.
І я прыходзіў, і Вы прыходзілі ў час,
спазьніўшыся пунктуальна на паўгадзіны,
як толькі мне здавалася, нібы ў Вас
я верасьнёвым вечарам не адзіны.
Ды ўрэшце яшчэ здалёк пазна *ю* па хадзе,
і хваляваньне згарае, нібыта ў печцы.
І хай уся дзяржбясьпека адпачываць ідзе,
бо Вы цяпер у бясьпецы і я ў бясьпецы!

**@@@**
Блякнуць знакі Задыяка,
ля гарматы сьпіць ваяка,
сьпіць у келіху каньяк,
сьпіць з ахвяраю маньяк.
Сьпяць машыны ў гаражы,
сьпіць бамжыха на бамжы,
зьбеглі зайкі ўсе ў лясы –
засынай і ты, касы!
Сьпяць вяскоўцы й менчукі,
сьпяць шпрыцы і касякі,

сьпяць у будцы і гнязьдзе,
сьпяць у Крупках і Узьдзе.
На ляту заснула гусь,
дрэмле трактар “Беларусь”,
сьпіць на фабрыцы станок,
сьпяць Ханок і Лучанок.
Сьніцца рыба рыбаку,
мухаморы – грыбніку;
сьніць прапойца – “Двух буслоў”,
Хадановіча – Арлоў.
Засынае родны край.
Ты таксама засынай.
Хутка й любая засьне.
Як заўсёды, безь мяне.

**@@@**
Пішу Вам зь *yahoo* на *tut.by* ,
а ў сеціве страйкуе пошта,
не заўважаючы таго, што
Вам дасылаюць “баю-бай!”
Ня я даўмеўся ўпершыню
складаць увечар калыханкі
і слаць іх удалечыню
на адрас да сваёй сяброўкі.
Вам адначасна шлю лісты
й званю па хатнім – не выходзіць,
і зноўку перайсьці на “ты”
мне з Вамі нешта перашкодзіць.
Хтось адарваўся ад зямлі,
камусьці замінае праца,
і з Афрадытай разабрацца
няма калі.
Ды зноўку не засну ўначы,
Вам калыханку пеючы:
лісты Вам шлю, лісты-Вам-шлю-лі-
сты-Вам-шлю-лі… люлі… люлі…

**@@@**

Каб Вы былі навучэнкай і лезьлі штодня пад колы,
усяго за крок ад пешаходнага пераходу,
я зьяўляўся б і Вас ізноў выратоўваў ля школы.
Вы б мяне пачалі ненавідзець.
Я рабіў бы сабе на шкоду.
Каб Вы былі наркаманкай і спраўна глыталі колы,
я б даставаў Вас: ня трэба сядзець на колах!
Вы пасылалі б мяне, а я – пасылаў Вас на ўколы,
не крыўдуючы ані кроплі: Вы – хворая, я – нарколяг…
Каб Вы былі прэзыдэнтам – і найвышэйшыя колы
абяцалі б усім, хто супраць, панізіць IQ і аклады –
я пацягнуўся б на грэбаны выбарчы ўчастак да школы,
плакаў бы й галасаваў супраць трэцяга тэрміну ўлады…

**@@@**

*…і чуеш, як родны памежнік*
*кажа мне:*
*“Здравствуйте!”*
***У. Арлоў***

Між Летувой і РБ – тэрыторыя нічыя.
Колы змаўкаюць. Мытнікі абходзяць вагоны.
Зараз будуць глядзець у пашпарт, бы там – ня я,
а каляровы здымак Мэдузы Гаргоны…
Толькі раптоўна:
“Спадар Хадановіч? Андрэю!”
Слухаю – і дурэю.
Нібы з марозу добра заліў за каршэнь,
я адчуваю радасьці поўную аблачыну
у штанах, куды па пашпарт лезу ў кішэнь,
зачараваны ілюзіяй, што вярнуўся ў сваю айчыну.

**@@@**

На кожным кроку чаргуюцца храмы і рэстарацыі.
Ты блытаеш назвы страваў з раскладамі набажэнстваў.
Адно галубы не губляюць сябе ў прастрацыі,
штодня на варшаўскім бруку, нібы на працы,

ганяюць за булкай з энэргіяй пажылых адраджэнцаў.
Сядзіш у Варшаве, бы ў псыхіятрычнай лякарні,
і адчуваеш сябе шторанку ўсё меней хвора,
і гоніш тугу так далёка, куды Макар не
ганяў цялятаў, пакуль мясцовы Макартні
левай рукою кратае сваё “Ўчора”.
І гоніць па Вісьле вёслы вецер-галернік,
і кожны завулак табе прапануе прытулак,
і круцяцца – сонца, і зоры, і медны Капэрнік,
і круціць жоўтай лістотай польскі *październik*,
зьбіваючы з ног салодкім водарам булак.

**@@@**

восень. мухі блыталіся ў марлі
на акне. ты ў рэгі Боба Марлі
недзяржаўную пачытваў прэсу
рыхтаваў да ўдараў мышцы прэсу
і дарма што спраў чакала горка
аздабляў вясельлі крыкам “горка!”
не шукаў сабе цяжкое долі
паляваў зь японцамі на Долі
любаваўся ружачкамі ў вазе
і ня меў астатняга на ўвазе
загартоўваў сьпеў струной тугою
і пабраўся з восеньскай тугою
подых верша стаў гаркавы, ёлкі
нібы водар леташняе ёлкі
і жывеш засмучаны і рады
ані ў чым сабе ня даўшы рады
але ўдзячны папрадухам-паркам
за чарговы шпацыр менскім паркам

**@@@**

Няма чаго лавіць, апроч
апошняе маршруткі!
Куды ні руш, куды ні кроч,
дагоняць халады.

Бо верасьнёвай цеплыні
не утрымаць за грудкі.
Папрэсься ў цемры на агні,
а трапіш не туды.
Куды зьнікае ўчора й дзе
канец тваім прыгодам?
Няма ратунку ў горадзе,
і ў доме ні душы.
Праходзяць лета зь верасьнем
падземным пераходам
і замыкаюць дзьверы снам,
і ў сьпіну – скавышы.

**@@@**

Паэты ляцяць у вырай,
з вульлёў прагнаныя трутні.
І кожны – з гучнаю лірай,
і кожны – пры звонкай лютні.
Шукаюць ратунку ў сховах:
у сьвеце зроблена досыць
будынкаў шматпавярховых,
ды іх туды не запросяць.
Ляцяць, чарадзеі й прынцы,
як ліст, адпраўлены Вам.
У кожнай паштовай скрынцы,
нібы навязьлівы спам,
марнуюць словы і сьлёзы
і ладзяць для дзетак шоў,
канаючы, як стракозы
на ганках у мурашоў.

**@@@**

Гаспадыні едуць на баль, а служкі
ганаровыя ладзяць для іх эскорты.
Ды апоўначы *haute couture* Папялушкі
ператворыцца... у элегантныя шорты.
Яе хросная маці – зорка на балі,
сыцылійка, паводле апошніх чутак.

Пэрсанажы казкі ўжо задзяўбалі:
кожны дзень прыходзяць мерать абутак.
Кожны вечар – цуды, як абавязак,
і ўхіліцца проста няма надзеі.
Шарль Пэро, стварыўшы паўсотні казак,
ад нуды паўсоты раз вар'яцее…
Нехта баксы ў лапу швайцару суне.
Засынаюць прынцы, пысамі ў тортах.
І стаіць разгубленая красуня:
без карэты,
бяз туфліка,
у адных шортах.

**@@@**
кожнага ранку порцыя кіслароду
чорная кава з порцыяй белай сьмерці
порцыя працы за так і за ўзнагароду
порцыя шчасьця якой адразу ня зжэрці
кожнага ранку новая порцыя сьвету
порцыя смутку і трохі дзіўнай любові
добрыя весткі з новага запавету
добры намер і пекла напагатове
маеш час і натхненьне звані сяброўцы
хай небясьпечная сувязь разгорне крылы
ці алімпійскія чэмпіёнкі на "стомэтроўцы"
выйдуць на старт па першым званку мабілы
чарку і скварку зьменіш на іншамарку
ці на вайсковую форму прыкід багемны
восень на вогнішчы паляць нібы вядзьмарку
дым айчыны гаркавы але прыемны

**@@@**
Адскрабеш пін-код на купленай карце,
назавеш пароль электроннай варце,
далучаючы да сусьветнага сьмецьця
лішні доказ свайго існаваньня ў сьвеце.
Тэлефон заняты і хата з краю:
калі ласка, на выхад, істота з краю,

дзе каманды ротам даюцца ротам
і задротам больш ня цесна за дротам.
Па начным тарыфе сабе дазволь ты
ператнуць высокі й высакавольтны,
бо палёты ня толькі ў сьне і па сьмерці,
бо пакінеш сьлед, якога ня сьцерці,
завісаючы ўсур'ёз і надоўга
над Потсдамэрпляц і гарой Міндоўга,
над Сафіяй і сопацкаю эстрадай,
над Высокім Замкам і Вісластрадай,
па-над Нёманам з Барысам і Глебам,
па-над хмарамі й высакавольтным небам.

**@@@**
Складаю хайку –
не хапае словаў,
пішу паэму –
пераймае дых.
Паэтам
невылечна мёртвых моваў
да сьмерці
прахадзіць у маладых.

**@@@**
дзяўчынка натуе сны
і піша на yahoo.com
хлапец на сьцяжыну вайны
выходзіць мудак мудаком
шукае цыцкі дзіцё
змагаецца барацьбіт
віруе быццам быцьцё
пасьля нібыта нябыт
нябёсы вісяць – узваж! –
і бачацца ўсё ярчэй
як дрэды і татуаж
калі ня помніш вачэй
і кожны мінак – манах
бо ў сэрцы неба і Бог

і ты ім патрэбны нах…
але й табе яны пох…

**@@@**

А хто гэта там ідзе,
па вушы ў глыбокай багне,
дзе песьні не завядзе
ні птушка ў лесе, ні Бах, ні
Бэтховэн, гады ў нудзе,
як “Оду радасьці”, цягне?
Скідай дарэмны багаж,
нашто валачыць каменьне,
калі ў загашніку гаш,
калі ў займеньніку меней
за ймя, няверны Тамаш,
ці варта помніць найменьне?
А ты ўкладаеш пярсты
і дурыш іншым галовы,
разводзіш, нібы масты,
назоўнікі й дзеясловы,
прыняўшы за “я” і “ты”
былога сьвету паловы.
Ды цемра – частка сьвятла,
што ты пагасіў дазваньня.
Бяз ранку – і ноч сышла:
ня сон і не чуйнаваньне.
І клееш кавалкі шкла
ў разьбітым адлюстраваньні.

**@@@**

Прагартаўшы жыцьцё настолькі, што ўжо закладку
укладаеш ня між астатніх, а між прачытаных старонак,
забываеш амаль пра ўсё, што было спачатку,
і гартаеш спачатку – і раптам бачыш: пячатку
на старонцы сямнаццаць пакінуў чыйсьці пярсьцёнак.
І глядзяць чырвоныя вочы на паляроідзе:
пераходны ўзрост – на крызыс сярэдняга веку.
І гаворыш сабе, што ўрэшце і гэта пройдзе,
і вяртаеш кнігу ў школьную бібліятэку.

@@@
Зранку ў падворку зьявіцца сьнег,
новы, як бібліятэка,
белы і ліпкі, нібы пяльмень,
як яго ні круці.
Зранку ў падворку势 стануць ляпіць
сьнежнага чалавека.
Дворнікі будуць лаяцца матам:
“Маць тваю, ***е*** ці, ец ***і*** !”
Зранку першым, блін, комам
нас расстраляюць дзеці!
Нехта ў белай гарачцы
белы збудуе дом.
Дворнікі будуць рыпець на машынах:
“Вы паглядзеце!
Еці!”,
крэсьлячы адрас на шкле лабавым:
w
ww. sni
ezhny. com

***Адвечным шляхам***

Той пароюю, калі ў дзяўчатак шалік на горле
і на тварах бамжоў імгненна сінеюць насы,
і мясцовыя алькаголікі, каб ня ўмёрлі,
спажываюць унутар вадкасьць чароўнай красы;
трое дзіўных суб’ектаў адвечным шляхам цярністым
паміж пустак, балот заваленай сьнегам зямлі,
псуючы лыжню беларускім біятлянiстам,
у нязнаным напрамку, хістаючыся, брылі.
Назавем іх “Магі”. (А раптам здарыцца шанец
скарыстаць камэрцыйным чынам вядомы брэнд!)
Хай адзін, для паліткарэктнасьці, будзе афраамэрыканец,
а другая – жанчына, а трэці – арабскі студэнт.
Так бадзяліся, гнаныя прагай прыгод і сплінам,
бадуном і проста пошукамі цяпла,
калі сьветлая зорка над раўбіцкім лыжным трамплінам
узышла і сьветлыя згадкі з сабой прывяла.

І, згадаўшы, пайшлі – і кульгаюць па сьвеце ўрачыста,
і, як вірус, разносяць патрэбу дзяліцца дабром:
то ўначы падкінуць налепку ў партфэль ліцэіста,
то драўляны брусок – берасьцейскім галодным бабром…
Замяло ўсе кірункі – адно сьнегавыя карункі,
і бялюткі лядзяш вісіць на чырвонай губе.
І для кожнага разьдзяўбая ў іх падарункі,
і, магчыма, нешта абломіцца нават табе.

***Баляда пра трыццаць восьмы тралейбус***

Трыццаць восьмы тралейбус запальвае свае бартавыя агні:
няма чаго болей рабіць на прыпынку – лепей на вышыні.
Палёты ўзімку? Ніколі. Ясна і крумкачу.
Але ў кіроўцы тралейбуса калядныя зоры ўваччу.
Надвор'е шэпча – нялётнае, і праўды няма ў крыле,
і сьветлафор заікаецца на чырвоным сьвятле.
"Чырвоная Маска Сьмерці", – сказаў бы тут Эдгар По.
Але трыццаць восьмы тралейбус ня пойдзе сёньня ў дэпо.
У сьведкаў пад шапкай зімовай дыба ўстаюць валасы,
калі трыццаць восьмы ад ледзяной адрываецца паласы.
Як ад вальсу, галовы кружацца ў пасажыраў і іхных дам.
"*Тралейбус ляціць у неба. Наступны прыпынак – там…*
*Не забывайце аплачваць* , – чуецца, як пароль, –
*на паветранай лініі сёньня працуе кантроль…*
*Забараняецца размаўляць з кіроўцам увышыні…*
*Пераканаўчая просьба мацней падцягнуць рамяні…*
*Не кампастуйце талёнаў, маючы праязны…*
*Саступайце анёлам сталага веку, інакш саступяць яны…*
*Бізнэс-кляса для пасажыраў зь дзецьмі ды інвалі…* "
Болей абвестак зь неба не чуваць на зямлі…
Тралейбус ляціць уверсе, унізе плыве яго цень.
Нябесны дыспэтчар стаміўся лічыць:
трыццаць восьмы тралейбус за дзень!

## ***Калядны рэп***

У краіне, дзе поўны тормаз націскае на тармазы;
дзе адно й тое самае сьвята адзначаюць чатыры разы,
каб насельнікі, як наркаманы, зноў і зноў адчувалі прыход
навагодняга сьвята зь вечна новай назваю "Новы год";
дзе фартуна, як сьнежная баба, усьміхнецца табе анфас,
павіншуе кожнай вітрынай: "*с рождеством и калядами вас!* "–
ты ня бачыш, ляціш на паўночных аленях у кірунку Караганды,
покуль Дзед Мароз барадою з ваты замятае твае сьляды.
І паўночнае зьзяньне ў вочы, і палярная зорка ўгары,
і на ўсіх санях сьвятога Міколы замежныя нумары.
І складаеш калядную песьню, і выходзіць сьнежаньскі рэп, і
сьпяваў бы, калі б ня поўнач і ня мінус сем на дварэ б.
Гэтай поўначы хопіць зь лішкам на астатнія паўжыцьця…
А назаўтра ў ясьлях выходны – толькі вол, ягня і дзіця.
Баю-бай, маленькі Ісусе,
ў Бэтлееме і ў Беларусі.

***@@@***
Калі ні ўзораў на шкле, ні белай віхуры,
ды сам каляндар падказвае: цуд магчымы;
калі на ружовых аблоках сядзяць выключна Амуры,
страляючы ў мілых дзяўчат
выключна вачыма;
калі па гадзіньніку поўзае час-чарапаха,
калядныя колы дзеткам вязуць кока-колы, –
жадаю, каб Вас віншавалі музыкай Баха
з мабільніка шчасьця
сьвятога ці проста Міколы;
каб я пераклаў Вам найлепшую песьню Коэна
з малітваю, каб на вулічным слотным трэшы
Вы да пачатку сьвята вярнуліся ў дом спакойна,
ня трапіўшы на кантралёра й не захварэўшы!

## ***Калядны дар – каляндар***

Шукаючы зорку, удзень зь ліхтаром,
здаецца, спазьніўся – а не!

Бо кожны ў Каляды бывае царом
і сьвята яго не міне.
Бо мы – беларусы, і маем у дар
адзін каляндар і другі каляндар.
І нехта паставіў ялінку,
зрабіўшы рэальнасьцю сны.
А хтось яшчэ мае хвілінку,
бо ёсьць каляндар запасны.
Па першых Калядах – другое Раство:
адным – хараство і другім – хараство!
Хоць жолаб цяпер называецца яськлі,
ды сьвечкі ня згасьлі.
Хоць трох каралёў называюць валхвы,
ды кожны жывы:
Каспар, Мэльхіёр, Бальтазар –
К+М+Б –
і новая зорка – табе!
Учора кулялася чарка,
і несьлі ў пячору дары…
А сёньня цьвярозыя й хочам падарка
па іншым календары!

@@@

даўномінулыя рэчы прыходзяць у сны вар’яту
і згадкі грызуць сумленьне і памяць дзятлам дзяўбе
на гэтым сьвеце ўсё болей якаснага антыкварыяту
і меней і меней месца няякаснаму табе
ды ёсьць яшчэ сонца анфас і месяц зь цёмнага боку
а значыць будуць заплывы ў зьлівы і будуць пленэры ў сьпёку
гадзіны прух і няпрух і вечны мастацкі рух
навобмацак да намётаў сяброўак і проста падруг
і будуць новыя творцы ў вершах старанна якаць
палохаючы старанна зробленымі пачварынамі
а новы няякасны аўтар шукацьме такую якасьць
каб антыкварныя вершы зрабіліся ўрэшце кварнымі

***на дарозе***
па пояс у джынсах брыдзеш супраць плыні шашы
твае непужаныя думкі як іншаходцы ў прэрыі
і стэрэа-скавышы як госьці на сьвяце душы
новаю аранжыроўкай гудуць у плэеры
аблокі ўгары няспынныя як аўто
між пятым і трыццаць пятым агораным кілямэтрам
ня спыніш нікога й цябе ня спыніць ніхто
і першы сустрэчны акажацца проста ветрам
будуеш з *а* мкі з паветра і першы блін
выходзіць нечым сярэднім між бібліятэкай і вежай
на гэтым сьвеце так многа кніг і цаглін
а ты з усіх акадэмій ня скончыў нават мядзьведжай
і можна згубіцца ў трох дарожных слупох
і ў думках так ціха – чуваць як робіцца муха
сланом і ты так доўга ў дарозе што Бог
здаецца сузор'ем Вялікага Віні-Пуха

**@@@**
больш нічога не адбываецца
толькі неба ў вадзе адбіваецца

**@@@**
дзьве лыжкі солі на шклянку цёплага мора
якое цячэ з валасоў і на твары ня стыне
ляціш празь мяжу на сустрэчу са сьветлым *tomorrow*
і ўпадаеш у мора ў раёне гданьска і гдыні
вільготны вецер зранку мазгі прамывае
зьвіліны вашых маршрутаў – на гданьскіх мапах
міма цябе пралятаюць аблокі птушкі трамваі
караблі з вэстэрплятэ і электрычкі на мальбарг
вучыш замежныя мовы па караоке
джаз-фэстывалі чаек на молах і пірсах
кожная дзеўка анёл найчасьцей каравокі
на языках без касьцей сустракаецца пірсінг
у плянэтарыі сьпіш пад коўдрай вялікай мядзьведзіцы
і загараеш пад хмарным небам на злосьць прагнозам
істота якая здалёк чырвонаю скураю сьвеціцца

выкладчык ліцэю паэт з абгарэлым носам
а потым дашлеш па пошце альбо напішаш у посьце
верш-апраўданьне сам сабе абаронца
што ты тут паводзіўся як і належыць госьцю
не згараў на буйках і не заплываў за сонца

**@@@**

ён гаварыў ёй дурноты ён дарыў ёй канвалі
немагчымыя гэтай парою ў іншым сюжэце
яны абдымаліся так часта нібы іх увесь час фатаграфавалі
толькі вочы казалі: майму (маёй) не кажэце
балтыйскія дні і ночы пражываліся наўздагад
ды вочы ад недахопу сну не зьліпаліся ні на ёту
там дзе месца сустрэчы неба і мора цнатліва прыкрыў плякат
рэклямуючы па-над пляжам аўтамабіль таёту
а калі джэніз джоплін перакрыквала гданьскі прыгарадны цягнік
і зрывалася на цішыню што наступала пасьля яе
ён зразумеў што цуд незваротна зьнік
калі хутка дыхаеш
неба ня ў тое горла трапляе
і можна казаць як дрэнна страляюць п’яныя амуры
як цяжка ў сучасным шоў з мэлядрамай старою
а проста свая кашуля бліжэйшая да апаленай скуры
немагчымай у гэтым сюжэце іншай парою

**@@@**

веру ў прагнозы надвор’я і ўласнаму воку
ад смагі ня будзе адбою смазе ня скажаш адбой
нібы ў запой уваходжу ў дзесяцідзённую сьпёку
мінус надзея трапіць сюды з табой
зранку шаманю ганяю сухія хмары над галавою
часам заклíньвае думку але заклінае рука
і хмары ідуць без канвою – сюжэтнай канвою
на ліпеньскіх краявідах знаёмага мастака
зь першага дня на галовы валіцца ліпень
саракаградусным сонцам але не здаюся бяз бою
веру што ў Вільні якраз пачынаецца лівень

і напаўзае на Трокі й спыняецца над табою
і я не магу заснуць адмарожаны сьпёкаю
гіпнатызуючы словы якіх табе не скажу
а ноч такая вялікая а ты такая далёкая
што падаесься літоўскаю кропляй дажджу

### *Et si tu n'existais pas...*

калі б цябе не было ў вялікім сусьветным раскладзе
я выдумаў бы што ты далёкі касьмічны спалах
сьвятлом бы табе дасылаў эсэмэскі ва ўмоўным ладзе
і дарогу б чытаў па тваіх зорных ініцыялах
я наносіў бы тваё ймя на зямныя й нябесныя мапы
прамаўляў бы яго на ўдыху захлынаючыся ад шаленства
і ня верыў што нават малпа можа паходзіць ад малпы
бо ўсё выглядала б створаным на божае падабенства
я складаў пра цябе й гарлаў бы невядомыя іншым песьні
і суседзі прачнуўшыся ўночы ня зналі б каго я клічу
я глыбока сярод зімы пасылаў бы іх… на прадвесьне
і ўпершыню ў жыцьці не баяўся б таннага кічу
калі б цябе не было выдумляў бы цябе як твор я
і павольна канаў ад шчасьця ня просячы эўтаназіі
мой аловак бы лётаў па-над зямлёй як указка прагнозу надвор'я
але ты ў мяне ёсьць і ня ведаю што рабіць са сваёй фантазіяй

**@@@**
лёс цалуе цябе ў шчаку ты яму падстаўляеш вусны
бо жывеш да нашае эры і ня лічыш нашых гадоў
твая мэтрыка даўні эпас дагамэраўскі дзёньнік вусны
белай пенаю раскіданы па сузор'і сямі гарадоў
ты ня бачыш павольных сноў і ня танчыш павольных танцаў
бо твая рытмічная памяць захавала выбух і ўсхліп
не хапае паветра ў лёгкіх ды ня хочаш лёгкіх дыстанцыяў
бо ня маеш часу і месца на паўторны відэакліп
алімпійскія гульні жарсьці на якіх за цябе заўзею
а вакол равуць стадыёны і прыемна што мы адны
засынаем да новай эры і прыходзяць дзіўныя сны
як жыцьцё што бачым з акна авангардавага музэю

*@@@*
ты ўмееш гадаць бяз кавы досьць цынамону й гвазьдзікі
арыентуесься ў музыцы і паралельных сусьветах
юная нібы яшчэ не запалены маладзік і
старая як вечнасьць таму пагашаны ў небе ветах
заўсёдніца ў кожным касьцёле сынагозе і кірсе
гатовая ехаць стопам а потым вяртацца па шпалах
а потым выйсьці на подыюм хістаючыся як на пірсе
такая лёгкая што здаецца змые любы фотаспалах
покуль мэтро развозіць па навагоднім аргане
покуль мяне развозіць – праўду мяшаў з маною
ты засынаеш у недасяжнай дзявочай фата-маргане
і прачынаесься ў ложку побач са мною

***сто пудоў адзіноты***

I just called to say I love you
***Stevie Wonder***

сто пудоў адзіноты больш чым пацягне ліфт
за акном то зьліва то прълівень то залева
ходзяць думкі налева і ўлева схіляюць шрыфт
і пішу пачынаючы з рыфмаў справа налева
сёньня дзень і ноч пагадзіліся на нічыю
і ніякай нябеснай манны максымум манка
а назаўтра вечар з раніцы зуб даю
гэта восень будзе вільготнай як німфаманка
гэта восень будзе вільготнаю сто пудоў
нібы горла не прасыхацьме да небакраю
але будзь я нават нэграм пахілых гадоў
я вазьму тэлефон і скажу што цябе кахаю

*@@@*
ты ведаеш хто такія боб дылан і дылан томас
я ведаю толькі тое што я твой верны фанат
што я – калі я з табою – бываю ручны як тормаз
а ты са мною – самай ручною з усіх на сьвеце гранат
што я з табою маленькі і голы нырэц з абтоку шры-ланка

калі ты здымаеш нумар і майткі хоць я далёка ня бог
маланка тваёй сукенкі нібы шаравая маланка
б’е электрычным токам па пальцах і па зубох
што мы зьбіраемся пазлам бываем плазмай і плазам
што я кладуся а ты сядзіш на мне нібы наркаман
і чуючы твае словы: чакай давай кончым разам
хто скажа што мы дачытваем адзін на дваіх раман

## З кнігі “Бэрлібры” (2008)

### *Стары паэт*

Стары паэт
ня мае шкодных звычак,
бо ад сьпіртнога зранку бывала пякотка,
а ад цыгарэтаў жаўцелі зубы;
потым зубоў ня стала,
ды не мяняць жа звычак на схіле гадоў.
Што да наркотыкаў,
дык ён мог бы намякнуць на знаёмства зь імі
дзеля таннай папулярнасьці ў моладзі,
але хай моладзь сама
дбае пра танную папулярнасьць,
а стары паэт
шырока вядомы,
хоць і ў вузкіх колах,
затое настолькі шырока,
што юныя літаратары
пасьля паэтычных чытаньняў,
апынуўшыся ў прыбіральні
ля суседняга з мэтрам пісуара,
ад хваляваньня забываюць расшпіліць прарэх.
“Вось здорава! – думае паэт. –
Я б так ня змог!”
Бо стары паэт
прачытаў за жыцьцё
сорак восем кніжак,
дваццаць дзьве зь якіх былі ягоныя,
яшчэ да дваццаці дзьвюх ён напісаў перадмовы,
а першыя чатыры ён памятае смутна;
хоць мае на паліцы
дзьве з паловай тысячы томікаў сваіх калегаў,
усе, вядома ж, з аўтографамі,
каб, Божа барані, ня здаў у букіністычную кнігарню,
але ён часам такі здае.
У маладосьці зь яго кпілі за неадукаванасьць
ды іранічна казалі: “Вучыцца, вучыцца й вучыцца!”,

а цяпер не, таму
што стары паэт
наведаў дзьве з паловай тысячы школаў,
каб кожная навучэнка,
апроч вечару страты нявіннасьці
ды выпускной вечарыны,
запомніла яшчэ і ягоную творчую вечарыну,
але ж ніводная не запомніла,
а калі якая й пазнае яго на вуліцы,
дык аказваецца
суседкаю па лесьвічнай пляцоўцы
альбо ўнучкаю.
Стары паэт
дагэтуль хвалюецца перад выступамі,
думаючы, ці будуць крычаць “брава!”
ды выклікаць “на біс”,
і таму чытае з падкрэсьленым выклікам,
нібы пытаючы: “Хто тут супраць мяне?
Вы за ці супраць?”
Але ўсё абыходзіцца,
і заля дружна крычыць:
“ЗА!” і “БІС!”.

### ***Прагрэс у літаратуры***

А ўсё-ткі меў рацыю
францускі казачнік,
які кляўся й бажыўся,
што ёсьць ён, прагрэс у літаратуры.
Сёньняшні Гамэр
ніяк не залежыць
ад перабояў электраэнэргіі,
цалкам можа кіраваць
новай Нацыянальнай бібліятэкай,
хоць у душы крыху зайздросьціць
Рансару й Бэтховэну:
найлепшыя творчыя вечарыны
ладзіліся ў ДК таварыства глухіх.
Сапфо

больш не балятуецца на пасаду
дзясятай музы,
бо адмовілася на карысьць кінематографа;
і хоць не спазнала шчасьлівага каханьня,
затое атрымала свой нобэль
за прапаганду паліткарэктнасьці,
апярэдзіўшы Вэрлена, Рэмбо і Жорж Санд.
Стары Анакрэёнт
                                        даўно кінуў піць
і можа толькі мроіць пра дзяўчатак,
затое ўключаны ў праграму
ўсіх школ і ўнівэрсытэтаў Грэцыі.
Віён
             на поўніцу адчуў
усемагутнасьць праваабаронцаў,
хоць у краіне так і не скасавалі
сьмяротнага пакараньня,
а нават калі скасуюць –
што зьменіць купка дысыдэнтаў
з транспарантамі “дзе Віён?”
Усімі адрынуты Гюго
на ўласным досьведзе зьведаў,
што выраз “мець гемарой”
мае ня толькі пераносны сэнс.
Затое цяпер ёсьць шоў-бізнэс
і можна пісаць словы на музыку.
Ганкур
             вядзе жывы дзёньнік у інтэрнэце.
Пакутуе на падваеньне асобы.
Фолкнэр і Маркес
канкуруюць на рынку турпаслугаў,
прапануючы гарачыя туры
ў Ёкнапатафу і Маконда.
І толькі Катул
             не адчуў асаблівых зьменаў:
як дзьве тысячы зь нечым год таму,
ён аплаквае вераб’я сваёй каханай.
Птушыны грып, знаеце…

***Арфэй, Эўрыдыка, герпэс***

“Зорка Вэнэра ўзышла...”
Не, гэта не пачатак рамансу,
і нават ня чорная мша.
Гэта пазыўныя ў менскім мэтро.
“Паважаныя пасажыры,
не падыходзьце да краю плятформы!
Не заходзьце за абмежавальную лінію!
І не азірайцеся,
напрамілы Бог, не азірайцеся!..”
Але ён такі азірнуўся.
Некалі ён іграў на скрыпцы
у падземным пераходзе,
і граў так,
што з усіх бакоў зьбіраліся
бяздомныя коткі й скінхэды,
і першыя клаліся ля другіх,
зачараваныя музыкаю.
Калі ён запільваў
“Dance me to your beauty with a burning violin”,
спыняліся ўсе навакольныя сабакі –
нямецкая аўчарка
і трое ейных спадарожнікаў ва ўніформе.
А аднойчы спынілася яна,
каб дакрануцца вуснамі да вуснаў
і адразу ж зьнікнуць у мэтро.
“Сука!” –
казаў ён назаўтра,
абмацваючы герпэс
і, зрэшты, зусім не жадаючы
пакрыўдзіць аўчарку ды іншых...
Потым былі ўцёкі й спробы схавацца
між пральняй і станцыяй “Інстытут культуры”.
На трэція содні хаваньня ў мэтро
ён зноўку пабачыў яе.
Яна ўсьміхнулася, даючы зразумець,
што пойдзе за ім паўсюль,
і яны пайшлі: ён сьпераду, а яна за ім.
“Не азірайся,

напрамілы Бог, не азірайся!” –
падказваў унутраны голас
і ўсе супрацоўніцы менскага мэтрапалітэну.
Але ён такі азірнуўся і –
вядома ж, яна аслупянела,
зрабіўшыся калёнаю з выявай дзяўчыны.
(Цяпер яе лёгка знайсьці на станцыі мэтро
сярод іншых пэрсанажаў Якуба Коласа.)
“Мой родны кут, як ты мне…
Паважаныя пасажыры,
пры карыстаньні эскалятарам
не апускайце рэчаў
на прыступкі й парэнчы!
Пазьбягайце трапляньня душы
у шчыліны
між рухомымі й нерухомымі
часткамі эскалятару!..”
Тыя, хто чакаў
скрыпкі ў падземным пераходзе,
абламіліся – ён ня выйшаў.
Ён зьнік у нетрах, і
няма таго, што раньш…
І толькі надпіс “Плошча Незалежнасьці”
паўзьверх надпісу “Плошча Леніна”
даводзіць, што ён покуль яшчэ жывы.

## ***Драйв***

Тут магла быць халяўная рыфма “кайф”,
але наш *драйвэр* гаворыць прозаю.
Я разумею прыкладна трэцюю частку,
таму застаецца радыё.
У бэрлінскім FM-е цесна:
дваццаць чатыры гадзіны джазу
і дваццаць чатыры – клясыкі.
Моцарт добра адпавядае
рухам нашага кіроўцы.
Усё віртуозна
і па-нямецку дакладна,

нібы спэцыяльна прыдумана
для вялікага слаламу ў дарожным корку:
трапіў –
цяпер адкаркоўвай,
і ён адкаркоўвае
ў рэ міноры,
мажор!
Зусім іншае джаз.
Цябе ахоплівае паніка.
Табе здаецца, што Оскар Пітэрсан
грае апошні раз у жыцьці.
Прынамсі, тваім.
Бо кіроўца,
зачараваны чарговаю сынкопай,
вось-вось ня ўпішацца ў паварот,
і тады пачнецца сапраўдны джаз,
музыка для тоўстых рэаніматараў,
якія доўга ня змогуць сьцяміць,
што здарылася:
ці то дзьверцу заклініла,
ці то цябе заклініла,
ці ва ўсім вінаваты драйвэр,
каторы
у аўтамабільным заторы
дачакаўся свайго саторы.

## *Пайсьці і не вярнуцца*

Наступны прыпынак –
Блышыны рынак.
І ты лавіруеш паміж
прыпаркаванымі роварамі,
баючыся зачапіць,
каб не спрацавала сыгналізацыя,
покуль мэлёдыя ў навушніках
зьмешваецца з навакольнымі гукамі
ў вялікім і маленькім
крывабегу тваёй музыкі,
а твой унутраны экскурсавод

абвяшчае:
наступны прыпынак –
Блышыны рынак.
І мясцовы ляўша
паказвае табе ўмоўны знак:
ці то “перамога”,
ці то “хутчэй гані два эўра
за ўсё, чаго табе не хапала
для поўнага кайфу”:
- трохструнная гітара;
- дзіцячыя гальштукі;
- электраштопары;
- пампэрсы з рукавамі;
- граблі з масажнымі насадкамі;
- канькі для блізарукіх;
- супрацьтанкавыя галёшы;
- сьветлафоры для дому;
- насьценны тостэр зь зязюляй;
- швайцарскі гадзіньнік з выкідным лязом;
- друкавальная машынка “Зынгер”,
пяць пар нагавіцаў пад капірку;
- пляшка патэфоннай гарэлкі,
78 абаротаў за хвіліну;
- парнаграфічныя карты
сакрэтных аэрадромаў…
І ты ўжо блізкі да стану,
калі трамваі спыняюцца
проста ля дзьвярэй тваёй сьвядомасьці
і вязуць на другі паверх.
Кола замкнулася.
Выйсьця няма.
Наступны прыпынак –
Блышыны рынак.

## *Справаздача*

Нібы схіл пагорка
пад тваёй сьпінай,
падымаецца сьпінка пералётнага фатэля,

і цень самалёціка *EasyJet*
усё большае й большае,
і вось ты зноўку ў горадзе,
дзе так лёгка пішацца ад рукі;
дзе вулкі такія вузкія,
аўтобусы такія шырокія,
а асфальт такі шурпаты,
што нават едучы роварам на гару,
не адпускаеш ручнога тормаза
па дарозе на возера,
дзе ты плаваеш пры канцы верасьня,
і вада так прыемна халодзіць каленку,
разьбітую падчас апошняга падзеньня з ровара,
калі ты заслухаўся сьпеваў
прыдарожных цыкадаў,
якія потым доўга пераказваў
найбліжэйшай мэдсястры;
дзе ў knайпе
з гаворачай назваю “Амнэзія”
ня трэба даплачваць
ні за імбірны сыроп да піва,
ні за ўсьмешкі дзяўчат насупраць,
калі палова піва з імбірным сыропам
апынаецца на тваім пузе;
дзе ўсе разумеюць усіх безь перакладніка,
і вы з маладою немкаю
разам слухаеце расійскіх клезмэраў,
што сьпяваюць на мове ідыш
песьню “День Победы”;
дзе ты можаш сядзець на траве
у прамым сэнсе слова,
і таварыскія мурашы
запаўзаюць ва ўсе найінтымнейшыя месцы,
але не кусаюць,
а ты па-пластунску перапаўзаеш
з адной сонечнай плямы на другую,
з пляшкай ёгурту
і кніжкай бітнікаў –
дзіўнае кампанія як на сярэдзіну дня,
але ты толькі што прачнуўся;

бо ў гэтым горадзе
начамі так доўга думаецца
пра ўсіх, каго ты згадаеш,
калі нарэшце ня вытрымаеш
усёй гэтай вечнай радасьці –
і скальпэль нябеснага кардыёляга
напіша “I” і “YOU”
з двух бакоў ад твайго сэрца.

***Чэмпіянат Эўропы***

З кім толькі
ні параўноўвалі Эўропу,
дзяўчынку-каўбоя,
што ўседзела на бычынай сьпіне
максымальна доўга,
аж да самага канца радэа.
Я неяк назваў яе пясочніцаю,
куды не пускаюць беларускіх дзетак
іх нацыянальна непрасунутыя бацькі.
Сёй-той абразіўся параўнаньнем,
хоць, мяркую,
каўбоям і матадорам спадабалася б.
Але я тады думаў
не пра пясочную арэну
палітычнай карыды,
а пра досыць нявінныя дзіцячыя забавы
з саўком
(я пра маленькую рыдлёўку),
плястмасавым самазвалам
ды алавянымі жаўнерыкамі,
калі кожны з нас быў генэралам,
які толькі пачынаў сваю
пяшчаную кар’еру.
Што да дзяўчатак, то яны
пераважна рабілі “сакрэты”,
выкопваючы ў пяску ямінкі
і аздабляючы гэтыя дамавінкі
жывымі кветкамі

і (нежывымі) паперкамі ад цукерак і жуек.
Галоўнай часткаю інсталяцыі
быў каляровы кавалачак шкла,
што клаўся паўзьверх –
і атрымлівалася *красиво* ;
потым "сакрэт" закопваўся,
старанна хаваўся, але так,
каб лёгка было знайсьці,
асабліва іншым.
Толькі праз шмат гадоў я зразумеў,
што гэта былі праобразы
нашых будучых інтэрнэт-сайтаў,
вершаў і порназдымкаў,
што мятлікамі ляцяць на сьвятло
і заблытваюцца ў сусьветнай павуціне,
у душ *ы* прагнучы
зьвярнуць на сябе хоць якую ўвагу,
ды ўпарта хаваючы
свае сумнеўныя "сакрэты",
нібы тая Эўропа,
чэмпіёнка радэа,
старая панна,
што так і ня зьлезла з бычынае сьпіны
для чаго іншага.

## *Вэлягонка пратэсту*

Паліцэйскія мігалкі
даюць першы залп у вочы,
а далей
кароткімі чэргамі
бліскаюць сьпіцы ровараў.
У горадзе вэлягонка пратэсту.
Тысячы колаў.
Джэм-сэйшн кляксонаў.
Заплечнікі танчаць у такт.
Хто сядзіць у сядле,
хто, лежачы,
рушыць нагамі наперад.

(Так, мабыць, выгодней.)
Хто з прычэпам –
вэлякалыскай
для пратэстуючых немаўлят.
Дык супраць чаго?..
Не даюць адказу.
Апошні ровар.
Кантрольны сонечны блік
на сьпіцах.
Але ты адчуваеш
дзіўную салідарнасьць,
нібы нарадзіўся
у вэляпрычэпе,
а потым падрос,
перасеў на ровар,
адкінуў трэцяе кола,
адчуў між нагамі раму,
наладзіў кляксон ва ўнісон –
і ўплёўся ў хвост каравану
й пляцесься ў гэтым хвасьце,
і некалі выб’есься ў лідэры,
так і не зразумеўшы,
супраць чаго пратэстуеш.

* * *

Чужая мова
лашчыць мне вуха,
як пірсінг
на чужым языку.

### ***Азёрная школа паэзіі***

І было возера,
канцавы прыпынак гарадзкой чыгункі.
І было неба,
канцавы прыпынак яго легкадумных мрояў,
шэсьць дзён падарожжа праз дождж.
І было сонца на сёмы дзень.

І пабачыў ён,
што шэсьць папярэдніх было горай.
І былі ветразі,
параходы й буйкі
з папярэджаньнем “не заплываць”.
І было іх двое на цэлым сьвеце,
калі не лічыць вадаплаўных –
чаек і весьляроў-акадэмістаў.
І была яна топлес,
у модных шортах,
зь яблыкам у кішэні,
які выпіраў збоку,
нібы мячык у тэнісісткі,
што рыхтуецца да першай падачы…
Другой падачы не спатрэбілася.

### *Постымпрэсіянізм*

Дзіцём
спрабую забрацца на бабуліну печ –
і рукі па самыя плечы
патанаюць у чорным моры
семак,
якое бабуля спрабуе высушыць.
Таго часу
семкі сохлі на дзіва хутка,
а сяброўкі
не саромеліся іх лузгаць
пры мне,
і шалупіньне проста
вісела ў іх на вуснах,
зусім не забіваючы
жаданьня цалавацца.
І я здымаў яго –
асьцярожна, як сапёр,
бо першы дотык
запраста мог быць апошнім,
а так хацелася працягу,
пагатоў на печы

высыхалі новыя семкі.
З таго часу
я знаюся на сланечніках
ня горш ад Ван Гога,
а на гарбузах
нашмат лепш за яго.

### ***Парная лічба***

Дзяўчына прыходзіць у краму.
Дзяўчына купляе рамонкавую гарбату,
пакунак на дваццаць аднаразовых пакецікаў.
Дзяўчына прыносіць пакунак дадому.
Дзяўчына выцягвае пакецікі па адным,
варожачы: “Кахае. Не кахае.
Кахае. Не кахае. Кахае”.
Хоць ведае, як бывае ў жыцьці
з парнымі лічбамі. А што рабіць?
Рамокавую гарбату на двацаць пяць пакецікаў
зноў раскупілі іншыя дзяўчаты.

### ***Фантомныя радасьці***

Улетку асьцярожна абыходзіць месца, на якім пасьлізнуўся й падвярнуў нагу ў лютым.
Баяцца сустрэчы з родным дзядзькам, зубным доктарам, хоць ён даўно ўжо на пэнсіі.
Шкадаваць, што бібліятэка пераехала й больш не насупраць твайго факультэту, хоць твой факультэт сам пераехаў і даўно ўжо ў будынку партыйнай школы.
Ніколі не сьпяваць улюбёнай песьні з кінафільму, пасьля якога ты атрымаў па пысе ў ваенным гарадку ў мікрараёне Ўручча.
Згадваць код перад тэлефонным нумарам, каб пазваніць у кватэру, дзе яна даўно не жыве, а каторы ўжо год жыве разам з табой.
Фантомныя радасьці. Настае момант, калі ад іх ужо не ўцячэш.
Калі ты спазьняесься на электрычку, якую сёньня адмянілі, і ты гэта ведаеш, але ўсё адно сьпяшаесься, рызыкуючы

пасьлізнуцца й падвярнуць нагу.
Калі ты загаворваеш зубы бібліятэкарцы, што кажа, быццам ты пяць год не вяртаеш кніжку, якую ты ніколі ня браў, і паказвае запоўнены тваёй рукой фармуляр.
Калі, едучы на мэтро ў бок мікраараёну Ўручча, ты спрабуеш прабіць на кампостэры для ільготных талёнаў пластыкавы жэтон і разумееш, што незваротна вырас.
Калі ты хаваесься ў старой будцы тэлефона-аўтамата і звоніш адтуль па мабільніку.
Звоніш ёй.
Па ейным мабільніку.

***Плакалі, знаем!***

Хлопчык трох гадоў
крочыць побач з маці,
а потым як зваліцца,
як трахнецца аб асфальт!
Каленка разьбітая ў кроў,
але ня плача,
трохгадовыя мужчыны ня плачуць,
падымаецца, атрасаецца
і незалежным тонам прамаўляе:
“Ледзь ня ўпаў!”
Хлопчык чатырох гадоў
ляжыць на апэрацыйным стале
і вось-вось заплача,
бо які ён ужо мужчына,
калі цёця доктар корпаецца
чымсьці жалезным яму ў пісі,
дзякуй, хоць бацькоў не пусьцілі.
Хлопчык пяці гадоў
дачакаўся смачнай перадачы
у свой загарадны тубэркулёзны санаторый,
і на радасьцях зьеў яе ўсю,
вось толькі памыліўся шафаю,
а потым дзяўчынка нешта шукала ў ёй,
нічога не знайшла й заплакала,
і хлопчык зь ёй за кампанію,

бо хрэн зь імі, з апэльсінамі,
у санаторыі карантын
і бацькоў зноў не пусьцілі,
вунь яны там, за акном,
махаюць яму рукамі,
покуль ён жарэ чужую перадачу…
Бацька трохмесячнай дачкі
па дарозе ў лазэрную клініку
падслухоўвае размову.
Хлопчык трох гадоў
крочыць побач з маці.
“Мама, а ведаеш, ты таксама памрэш!”
“Што ты такое вярзеш?!
Ты што, хочаш, каб твая мама памерла?”
“Не, я не хачу. Я проста нагадваю”.
Госпадзе,
хай доктарка з лазэрнай лінзаю не памыліцца,
беражы ў дарозе ўсіх Тваіх разьдзяўбаеў,
усіх сьляпых
і тых, каму сёньня закапалі вочы.

## З кнігі “Несымэтрычныя сны” (2010)

### ***АБМЕНЬНІК***

Я прыходжу ў “абмен валюты”:
памяняць на верасень люты,
памяняць на грошы гады,
каб – нябедны і малады,
каб яшчэ раз пабыць дзіцёнкам,
абмяняцца з табой пярсьцёнкам,
каб жадалі каханьня ў тосьце,
каб – жывыя ўсе нашы госьці…
Па якім мяняеце курсе?
Толькі дзеўчына зноў ня ў курсе.

### ***РАЗМОВА З РЭХАМ***

– Хто скажа табе, калі ты не зашпіліш прарэха?
– …рэха.
– І толькі яно, бо людзям усё роўна настолькі?
– …толькі.
– Хто будзе маніць, хто падставіць цябе неўспадзеўкі?
– …дзеўкі.
– Ёй будзе няёмка, як схлусіць табе незнаёмка?
–…ёмка.
– І хто яны ўсе, у якіх ты ня знойдзеш спагады?
– …гады.
– Што кажуць табе, зь іх грашыма, з басэйнам і з пляжам?
– …спляжым.
– І хто ты для іх, што ні бэ ў тваёй мове, ні мэ, бля?
– …мэбля.
– Куды яны шлюць цябе, зь беднай тваёй апранахай?
– …

## ***СЬВЯТА ПАЭЗІІ***

*(Па матывах Андрэя Радыёнава)*

Вечарына паэзіі, на жаль, пераносіцца –
аўтар учора *палучыў у пераносіцу* .
Аўтар хацеў быць ня горшым за Ясеніна,
і вось вечарына паэзіі адменена.
Аўтар чытаў свае вершы прастытуткам.
На трэцім радку яго назвалі ублюдкам.
Маўчаньне – золата, слова – срэбра.
Аўтар адказаў. Яму далі па рэбрах.
Аўтар хадзіў у выкшталцоных лірыках,
пакуль пагодным вечарам ня трапілі па нырках.
Аматар Бадлера, перакладчык Паўнда
не пратрымаўся да канца першага раўнду.
На чужыя мазгі не шкадуючы пудры,
ён нешта пра каханьне выпісваў на кампутары,
трымаўся за мышку на зайздрасьць мікі-маўсу,
але ў канктрэтнай бойцы трох хвілін не пратрымаўся.
Аўтару заехалі шыкоўнаю буцай.
Вечарыны паэзіі, на жаль, не адбудзецца.
Упаў на зямлю, як пад сярпом тваім калосьсе.
Вечарыны не адбудзецца. Сьвята адбылося.

## ***ПЭ. ЭС.***

У ноч, калі лебедзю ў сквэры скруцілі шыю,
а дзеўчына зноў засталася без парасона,
я цягаўся па Менску, зьбіраючы словы чужыя,
і каля Батанічнага саду з адной сустрэўся пэрсонай.
Ён працягнуў мне ў пластыкавай бутэльцы “джын-тонік”,
паглядзеў так, нібы запрашаў у рэлігійную сэкту,
і прадставіўся як выдавец белліту й крыху садоўнік,
анёл-садоўнік гэтага вось праспэкту.
І я слухаў яго, фільтруючы словы і кантралюючы рухі, покуль
ён разбаўляў свой “джын-тонік” гарэлкаю проста з рыльца.
І матылькі начныя сядалі яму на рукі,
і ён дыхаў цёплым паветрам на іхныя крылцы.

Мы пайшлі да дзіцячай чыгункі – калі яшчэ гэты ранак!
Другая пляшка “джын-тоніку” для падтрыманьня гаворкі.
– Дарэчы, як цябе зваць? Мяне Франак.
Да ну цябе, малец, у сраку! Сам ты Георгій!
На будынку бібліятэкі агеньчыкі танчылі полечку.
На стаянцы таксі цалаваліся закаханыя парачкі.
Ён сказаў мне, што ён ганаровы жыхар Наваполацку,
і выцягнуў з торбы падпольных кніжак два пачкі.
Драўляны дзядок ганяў мухабойкай кабету-інсэкту
на радасьць дзядам і бабулям у маргінальнай крытыцы…
А я глядзеў, як аднафамілец прахезанага праспэкту
піў і дыхаў начным матылькам на халодныя крылцы.

## *ПАЛЕСКІ ЦЫРУЛЬНІК*

*В. А.*

Сонца яму на скуры малюе зоркі і свастыкі,
а ён, паслаўшы апёкі да самай яснай халеры,
паказвае найвышэйшую клясу мастацкай гімнастыкі,
калі размотвае стужкай рулён туалетнай паперы.
Плыве за вадою й зрабіўся крыху цырульнікам,
бо неабачлівым рыбкам галовы стрыжэ да шыек,
хвасты падстрыгае русалкам, палескі унікум,
ператвараючы іх у спартсмэнак-паралімпіек.
Воўну з аблокаў стрыжэ і сплаўляе паверхняй ракі,
а рэшткі ўначы сабе цягне ў намёт пад голаў;
смак хлеба, якім ён корміць мясцовых дзяўчат з рукі, аддае
сродкам ад камароў – зрынутых зь неба анёлаў.
Ён ведае, дзе бярозкі растуць скрозь старыя пні,
нібы на голае цела мераюць фенечкі і маністы.
Калі ён заходзіць мыцца ў раку, у мыльнай пене сьляпні
канаюць, быццам замерзлыя ў горных сьнягах альпіністы.
Гарэлку ператварае ўначы ў навальнічны сок,
які цячэ лістотаю дуба ў жывым электрычным праменьні, і
кроплі здаюцца сухімі, як жоўты палескі пясок,
быццам сябры й сяброўкі кінулі зь неба па жмені.
*Сьцьвіга, ліпень 2005*

## ***КЛЯСЫКА***

Аб дзьверы яе хлапцы разьбівалі лбы,
пасьля залівалі раны з рыльца за ровам.
А сонца хавалася ў шатах яе вярбы,
а вецер ганяўся па лузе за ейным роварам.
Цёткі казалі: “Надта ж любіць сябе”.
Дзеўкі казалі: “Хопіць фарсіць, карова!”
Хлапцы маўчалі. Адзін выразаў імя на вярбе,
іншы лісты пакідаў на багажніку ровара.
Дні цяклі, як заўжды: касьба, малацьба,
рыбнадзор, браканьерства, схаваны бровар.
А малец пісаў у рыфму: “Вярба – судзьба”,
а іншы таксама ў рыфму: “Ровар – гейм овэр”.
Дзяўчыну зьвязуць у горад – і ўсё, труба!
Мужык яе, кухар (па-гарадзкому “шэф-повар”),
нядаўна купіў круты рэстаран “Вярба”
і мае крутую тачку маркі *Land Rover* .
Палова вёскі нап’ецца – у знак журбы,
другая ўжо будзе пад мухай, а мух тут прорва...
А вецер пляце на прутках ейнай вярбы,
а сонца вяжа на сьпіцах ейнага ровара.

## ***НЕСЫМЭТРЫЧНЫЯ СНЫ***

каб меў я мабільнік, зараз было б на ім безь сямі тры
ноч – і мы сьнім адно аднаго, але без сымэтрыі
ты сьніш, быццам я на верш для цябе не шкадую паперы
я сьню, быццам ты мне звоніш, і я званю – табе ў дзьверы
ты сьніш, бы вязеш з бацькамі знаёміць, а я – што іх дома няма
і ты са мной застаесься зусім нечакана сама
ты сьніш, нібы я сарамлівы, а я – што нахабны і дужы
ты – быццам кахаю ў душЫ, а я – што кахаю ў дУшы
ты сьніш, нібы кажаш: каго яшчэ ў свае запішу я абраньніцы
а я – што лаві імгненьне і хопіць згадваць аб раніцы
ты сьніш, бы звоніць мабільнік і мы спыняемся ў выніку
а я – што за кайф, калі табе не ламаюць кайф па мабільніку
я сьню, нібы вучыш мяне такім рэчам, якім не вучылі ў школе
ты сьніш, нібы я нарэшце кажу, чаго не казаў ніколі

я сьню, што мы разам з табой парушаем да раніцы цішыню
у сьне, дзе ты проста ню, а я цябе проста сьню

## *ДЗЕСЯЦЬ СПОСАБАЎ БЫЦЬ ВЫЦЯГНУТЫМ З ЛОЖКА ДЗЯЎЧЫНЫ*

*Ты ўжо разьдзеў і цябе ўжо разьдзелі.*
*Хто ж цябе выцягне зь цёплай пасьцелі?*
*Шмат перашкод у інтымным жыцьці.*
*Спынімся на дзесяці.*
Першы спосаб банальны. Сусед прыходзіць пазычыць крэслы
для застольля, а заадно й запрасіць на бяседу.
І нецярплівы чытач, што чакае тут рыфмы "чрэслы", будзе
расчараваны – яна адчыніць суседу.
Другі. Разам з ложкам вы расхісталі й кніжную шафу, і –
блякбастэр зь бібліятэкай адразу даходзіць да кульмінацыі, бо
зьверху на вас сыпецца поўны збор з творамі Васіля Быкава.
Першыя восем тамоў. Магло быць і чатырнаццаць!
Трэці. Ты заўважаеш, што вас у пакоі ня двое:
хтосьці варожа шыпіць за стосікам "Нашае Нівы".
"Гэта мой коцік, – тлумачыць яна, – бо я люблю ўсё жывое".
І, выціраючы кроў табе з твару: "Ну так, ён вельмі раўнівы".

Чацьверты. Усё было клас. Яна грызла падушку зубамі.
Толькі ў самы разгар інтымнасьцяў вашых:
"Стой! Там жа па тэліку інаўгурацыя прэзыдэнта Абамы!
Пойдзем глядзець! Што значыць "лепш ідзі да мяне"? Ты што,
фашык?!"
Пяты. Звоніць мабільнік. "Танечка, прывітаньне!
Так, толькі вельмі хуценька. Я размаўляць ня ў стане".
І размаўляе гадзіну, радасная, як слон.
З гора вылазіш з ложка і йдзеш глядзець біятлон.
Шосты. Толькі яна прашаптала: "ну ўсё, цяпер я цяжарная", як
вас, уварваўшыся ў дом, паліваюць са шлянгаў пажарныя.
Паўбудынку згарэла, і ты вінаваты, каўбой:
сьвечку запальвалі? Трэба гасіць за сабой!
У параўнаньні зь сёмым, папярэднія – дробязі,
бо яна, пасярод любошчаў, кажа: "З табой так добра!
З раніцы напішу пра гэта ў жывым часопісе..."

Ты ўцякаеш так хутка, быццам у ложку – кобра.
Восьмы. Суворыя людзі ўламіліся ў хату пад раніцу,
і забіраюць, але не цябе, а тваю абраньніцу.
Трэ было ў войска самой ісьці, як сяброўкі раілі.
Ледзь не забыўся: падзеі разгортваюцца ў Ізраілі.
Дзявяты. Раптам – сьвятло і хтось шасьцікрылы з трубою.
Ты думаў, што апакаліпсіс і сьвету настаў хэпі-энд.
"Дзяўчына! У нашай галяктыцы ўсе трызьняць толькі табою!
А ты брысь адсюль, распусьнік, ты лішні тут элемэнт!"
Дзясяты – і самы надзейны – спосаб такі:
у дзьверы звоняць яе бацькі.

## ***БЕЛАРУСКІЯ МУЖЧЫНЫ***

Беларускі мужчына прыходзіць на сьвет
у камарыных укусах замест радзімак
і таму добра ведае: дзе больш балотаў, там больш радзімы.
Беларускі мужчына ўмее апынуцца ў такой багне,
што адтуль ні халеры ня выцягнеш, але беларускі мужчына
цягне.
Беларускі мужчына выдатна ведае дзесяць бульбяных страваў
і сто дзесяць адмазак ня чысьціць бульбы,
бо мае шмат іншых справаў.
Беларускі мужчына жыве ў самым цэнтры Эўропы,
калі верыць мапе:
ў гэтым цэнтры стаіць канапа і беларускі мужчына
ляжыць на канапе.
*Яго дзед перажыў калгас і мэліярацыю.*
*Яго бацька – крызіс сярэдняга веку і гіпэрінфляцыю.*
*Яго дом перажыў рамонт. Яго кот перажыў кастрацыю.*
*Ён гаворыць, што можа быць горай, – і мае рацыю.*
Беларускі мужчына купляе машыну, прыгнаную з-за мяжы, і
другую палову жыцьця шчасьліва жыве зь ёй у гаражы.
Беларускі мужчына – футбольны фанат. Калі раптам заб'юць
мазілы, шматкватэрны дом патрасаюць пякельныя сілы.
Беларускі мужчына ня чуў пра паліткарэктнасьць ніколі
і таму жартуе так сьмешна, што лепей ня слухаць без
алькаголю.
Кожны трэці п'е піва, другі кожны трэці – гарэлку, а трэці трэці

разумее: гарэлка бязь піва – грошы на вецер.
*Яго дзед перажыў калгас і мэліярацыю.*
*Яго бацька – крызіс сярэдняга веку і гіпэрінфляцыю.*
*Яго дом перажыў рамонт. Яго кот перажыў кастрацыю.*
*Ён гаворыць, што можа быць горай, – і мае рацыю.*
Беларускі мужчына падасьць жанчыне руку і набудзе кветак,
і аднойчы паабяцае не раскідваць па доме шкарпэтак!
Беларускі мужчына аматар праводзіць выходныя дома.
Часам выйдзе на дзесяць хвілін і вяртаецца ўночы.
Дзе быў, невядома.
Засынае ў таксоўцы, што едзе дамоў,
прачынаецца ў незнаёмым трамваі…
І нікому ня ясна, за што яго жонка трывае,
выбачае футбол і канапу, гараж і буханьне?
Беларускі мужчына – чысты аб’ект каханьня.
*Яго дзед перажыў калгас і мэліярацыю.*
*Яго бацька – крызіс сярэдняга веку і гіпэрінфляцыю.*
*Яго дом перажыў рамонт. Яго кот перажыў кастрацыю.*
*Ён гаворыць, што можа быць горай, – і мае рацыю.*

## ***ВЕРШЫК ПРА САНКІ***

калі мама з татам табе куплялі першыя санкі
ты ведаў, што будзеш катаць усіх дзяўчат у двары
потым, калі жыватом аб ваду навярнуўся з тарзанкі
ты ведаў, што ёй цікава – патонеш ці не ў віры
калі ў школьным ціры наўмысна паліў па мішэні
ад якой не пасьпеў яшчэ адысьці ваянрук
ты ведаў, што будзе адразу пасьля, а потым твае кішэні
стануць сховам ад ветру для самых прыгожых рук
калі крэмзаў парту сьцягнутым дома сьцізорыкам
і зь непераможным кампом змагаўся ў шахматы й го
калі на мяжы скандалу спрачаўся ў класе з гісторыкам
адзін гісторык у класе ня ведаў, дзеля каго
і хай аднакласьнік з парыжу сёньня глядзіць з дакорам на
“баралускага” лузэра, што робіць ня тое з жыцьцём
а ты глядзіш, як дачка глядзіць на хлапцоў – і ня сорамна
перад ейнаю мамай – ты быў нармальным дзіцём

## ***ПСІХААНАЛІЗ***

Упершыню цалаваўся ў дзіцячым садку:
сярэдняя група, сярэдзіна ціхай гадзіны.
Дзеўчына доўга трымала мяне за руку,
потым прызналася: я ў яе не адзіны.
Упершыню мяне моцна пабілі ў старэйшай
групе – тая дзяўчынка, зь якой цалаваўся ў сярэдняй.
Я наглядзеўся tv – і назваў яе гейшай.
Гейша таксама глядзела tv. Бойка была канкрэтнай.
Упершыню пасварыўся зь сябрам у першым класе,
дзеля дзяўчынкі, зь якою біўся ў старэйшай групе:
“Ты ж мне пакляўся! Я ж на цябе паклаўся!
Што робіць ейны волас у гэтым гарохавым супе?!”
Упершыню спавядаўся, мыючы сходы за шатняю,
сябру сяброўкі на тэму сяброўкі сябра.
“Сёньня дала мне…” – кажу. Патлумачыць “…дала сьпісаць хатняе”
я не пасьпеў – перашкодзіла сябрава швабра…
Дваццаць гадоў мінула – і вось, ляжу на кушэтцы
сябра-псіхааналітыка, што зламаў аб мяне
некалі швабру: “Ты тут ні пры чым. Я ня верыў Сьветцы.
Дзеўкі няверныя. Здрада не абміне.
Я таксама герой. На тую цягне, да гэтай хіліць.
Хоць ты жаніся зь першаю выпадковаю.
Пабяруся з балгаркай – і хай мяне піліць!
Пазнаёмлюся зь фінкай – і хай падколвае!
Сьветка ж (ты сьведка!) заўжды карысталася попытам.
У адзінаццатым класе скокнула ў даўжыню.
Прызямляецца. З попы пясок атрасае. А попа там!..
Дваццаць гадоў мінула, а бачу, бы ўпершыню”.
Хутка пясок будзе сыпацца, а ён пра дзіцячыя дупы.
Слухаеш – і ня ведаеш, хто аналітык, хто псіх.
Раскажы пра садок. Інвалідам сярэдняй групы
хопіць кушэтак. На ўсіх.

## *ВЫХАВАНЬНЕ ПАЧУЦЬЦЯЎ*

*І толькі ў хваляваньні скуб рукаў,*
*Калі цябе да дошкі выклікалі.*
***Рыгор Барадулін***

Школа, дзе я вучыўся, была сярэдняй –
якраз пасярэдзіне між кальцавой і цыганскім пасёлкам.
Бяжыш папаліць у лясок, а там ужо вучні суседняй:
маглі пазнаёміць зь цёлкамі, маглі і аттырыць з толкам.
Ваенрук па мянушцы Дзот калашом наводзіў парадак,
фізрук па прозьвішчы Пшонка
трапляў ува ўсе баскетбольныя кольцы,
піянэры на лесьвіцы ціскалі акцябратак,
піянэрак за шатняю ціскалі камсамольцы.
Школа ігнаравала нашы дурныя жарты.
Вучні ўдавалі, што не разумеюць кпінаў.
Але аднойчы мой аднаклясьнік запусьціў у настаўніцу партай –
і былі тыя, хто шкадаваў, што ён не дакінуў.
Мы добра ведалі, што ў нас называюць капустай,
а вось пра дзяцей у капусьце бацькі нам не расказалі.
У нас не было басэйну для знаёмства з распустай,
таму хараство дзяўчатак мы адкрывалі ў спартзалі.
Раз на фізры, калі мы ўсёй клясай поўзалі па канаце, я завіс –
ні туды, ні сюды – паміж падлогай і столльлю, і ты раптам
спыніла ўвагу на маёй клаўнадзе:
а хто там вісіць дагары нагамі й не наракае на долю?
Я пачуў тваё рагатаньне – і ляснуўся долу на маты.
Покуль Пшонка нешта крычаў, а пасьля перайшоў на маты, ты
пяшчотна сказала “прыдурак”, унушыўшы адной ухмылкай,
што маё зьяўленьне на сьвет не было фатальнай памылкай.
Я ня мог да цябе павярнуцца сьпінай і не наважваўся тварам,
адчуваў сябе закаханым у прыгажуню пачварам.
Сэрца білася ў захапленьні, варта толькі вачыма сустрэцца, як –
уваскрэсьлі боства й натхненьне, і жыцьцё, і сьлёзы, й эрэкцыя.
Каб цябе ўратаваць ад адказу з двойкаю немінучай,
я гатовы быў зьесьці твой дзёньнік і крэйду разам з анучай.
Я табе падказаў усе даты па гісторыі Рыма і Грэцыі,
а потым катаў на раме – на злосьць дзяржаўтаінспэкцыі.
Мы езьдзілі разам трамваем, пасьля ў падземным вагоне
(якраз нядаўна пусьцілі мэтро), палілі ў цябе на балконе, на

тваім дні нараджэньня я насьмяшыў тусоўку
і – вяршыня інтымнасьці – пазычыў табе насоўку.
Ты плакала – я выціраў. Ты мне казала: “Ня трэба”.
Казала, што хутка зьедзеш, бо тут савок і імпэрыя.
А потым: “Дурны, я кахаю іншага. Табе да яго, як да неба”.
Я паглядзеў на неба, халоднае, нізкае, шэрае.

## *УРОКІ СЬПЕВАЎ*

Колькі год запар на дзень нараджэньня з раніцы ў электрычцы,
мроячы пра стоп-кран у вушах, каб хоць на хвілю – ціш.
Перакрыкваючы рынгтон з “калі вам крыху за трыццаць”,
хлопчык-жабрак сьпявае: “дзяцінства, куды ты ляціш?”
А і напраўду, куды? Бо пацану на мыліцах
ні пабегаць па дахах, ні паганяць галубоў.
Хто наагул дакладна скажа і не памыліцца,
з кім плюсаваць Наташку, каб у суме любоў?
Помню, настаўнік сьпеваў, што кіраваў нашым хорам,
на сьвята савецкай арміі вадзіў нас на вінзавод,
потым зьнікаў і вяртаўся чырвоны, а хлопцы зь нямым дакорам
глядзелі яму наўздагон, набіваючы тортам жывот.
Помню Пятра, ударніка працы і проста ўдарніка:
так граў на вясельлях, што фаны не адпускалі ў WC.
Пяяў для нас, як прапаў сабака, а потым разам з напарнікам
прапаў – і толькі праз тыдзень абодвух знайшлі ў рацэ.
На дзень нараджэньня паштоўкай паслаў запрашэньне
сяброўцы.
Яна прыйшла ў такім макіяжы, што ясна: мама – грымёр.
У самы разгар нашых сьпеваў сусед па пляцоўцы
ня вытрымаў: “Хулі шуміце, учора Андропаў памёр!”
Але ў аматараў цішыні надзвычай крыклівыя дзеці.
Ягоны сын вучыў мяне гульням, да якіх я ня звык:
скакаў па дошках і гучна пяяў:
“ЯК ХОРАША ЖЫЦЬ НА СЬВЕЦЕ!”
Я радасна скочыў за ім на дошку – й нагой напароўся на цьвік.
Успомніць жахліва, як потым да ліфта адольваў сходы.
Нават цяпер згадаю – і правы ступак памацаю.
Зрэшты, а як іначай было дабіцца, каб я заўсёды
помніў пра песьню хлопца, што стопудова меў рацыю?

***РАДЫЁ-ВІЁН***

*Mais ou sont les neiges d’antan?*
***Франсуа Віён***
*О, как похож ты, тающий снег…*
***“Ласковый май”***

Хлопец насупраць – ня супэр-зорка, дзяўчынка яго – ня мэга,
але, пяшчотна абняўшы, яна гаворыць яму:
“Мама казала, праз сорак дзён пасьля першага сьнегу
выпадае сапраўдны, каторы – на ўсю зіму.
Першы быў пазаўчора, я падлічыла – і, ведаеш,
гэта зіма пачнецца якраз трыццаць першага сьнежня.
Той Новы год быў нейкі ня вельмі вясёлы, у гэты ж
так пагуляем, што дворнікам зранку будзе ня сьмешна!”
Я пагуляю таксама. Хай сьнег замятае дарогу,
што перайду, каб дрэнных прыкмет не баяўся сустрэчны кот.
Буду брысьці па леташнім сьнезе і згадваць сабе патроху
тых, якія мінулі, як гэты год.
Дзе прыўкрасная А., выдатніца па фізкультуры?
Як аблягалі попку яе трусы!
Як яна танчыла пад “You My Heart” са школьнай апаратуры, за
вялікія вушы закінуўшы валасы!
Дзе чароўная Н., што ведала ўсе памеры
і вершавала пра маці, радзіму і ўсё такое?
Я хацеў яе… Н. разгадала мае намеры –
і пасьпявала схавацца ў піянерскім пакоі.
Дзе дзівосная М., што ў інтэрнаце шпалеры
клеіла разам са мной, каб квітнеў унівэрсытэт?
Я не заўважыў, як трапіў да яе ў кавалеры,
і ня ведаў, што трэба рабіць, застаўшыся тэт-а-тэт.
Дзе спакусьніца І., што езьдзіла з намі на бульбу
і не здала іспытаў, нарадзіўшы дзіця?
Я напісаў ёй агульны сшытак вершаў і – mea culpa! –
так і не перайшоў ад паэзіі да жыцьця.
Дзе неймаверная В. з Крыжоўкі на Менскім узмор’і?
(Брат, лейтэнант ГБ, пагражаў, што мяне дастане.)
Потым я бачыў яе ў праграме “Прагноз надвор’я”: нешта пра
пацяпленьне й сьнег, каторы растане…

Хай ласкавы шансон у кавярні гучыць папсова,
покуль зь дзяўчынкай цалуецца маладзён.
Кожны леташні сьнег растане своечасова,
каб нам было што ўспомніць праз сорак дзён.

## *ДОЎГАЯ ДАРОГА ДА ГАРШКА*

а здорава было б узяць і напісаць сямейную сагу
пра бацькоў і дзяцей і назваць яе “доўгая дарога да гаршка”
тамоў так на сто пяцьдзясят прывітаньне бальзаку
калі ў друкарцы і ў аўтара хопіць на ўсё парашка
капітальна прадумаць розныя сюжэтныя адгалінаваньні
каб плынь сьвядомасьці бараніла віры свае
каб каханкі ў ложку шкілеты ў шафе тапельцы ў ваньне
і духоўнасьць духоўнасьць духоўнасьць а як безь яе
вось скажам філфак унівэру да самай спартзалі набіты німфэткамі
з гарадзкою прапіскай current music: на мурамскай дарожцы стаялі тры
ён знаёміцца і адразу ж пачынае яе параўноўваць з рознымі кветкамі
бо ён тут адзіны зь вёскі яму сямнаццаць столькі ж александры…
ён з маленства аматар броўкі яна мае пірсінг на броўцы
кажа што кветкі выклікаюць у яе іншы асацыятыўны шэраг
яны нешта п’юць ён прачынаецца зранку на ейнай сяброўцы
яна дарыць яму пацалунак ён згадвае аб людажэрах
яна кажа што ейныя бацька і брат толькі што селі
за групавое забойства яе папярэдняга жаніха
і пакуль яны там трэба хутка згуляць вясельле
як гэта ледзьве знаёмыя? а каму я тады да раніцы ладзіла вднх?
трыццаць дзьве незамужнія аднакурсьніцы вялі іх замест канвою
адзінаццаць абкураных дваццаць адна бухая
і толькі пад праваслаўнай былой уніяцкай царквою
ён зразумеў што напраўду кахае
гасьцей панаехала цэлы аўтобус як на экскурсію
апошні раз ён так хваляваўся калі вучыўся браць акорды з

барэ
празь дзевяць месяцаў яна мела найпрыгажэйшы жывот на курсе
хлопчыку ў гонар здадзенага іспыту далі імя анарэ
ад крыкаў маленькага генія зранку расколвалася башка
але гэта палова бяды бо нягоднік паставіў мэтаю
з паўгадзінкі паседзеўшы марна пасьля пакакаць міма гаршка
разоў гэтак сто пяцьдзясят каб бацькі чалавечую мелі камэдыю
і вось зь яго вырас батан-выкладчык пад гучны гоман
ён сочыць як у студэнтак сыходзіць румянец са шчок
покуль ён валіць ім мантру: рамантычны энтузіязм іронія гофман
і залаты гаршчок
залаты гаршчок
залаты гаршчок

## ***ФАЛЬШЫВЫЯ СЯБРЫ ПЕРАКЛАДЧЫКА***

Ён верыў у Дзеда-Мароза, яна ў выкраданьне Эўропы,
яго бацькі ў камунізм, яе бацькі ў гараскопы.
Ён – лютаўскі Вадалей, яна – верасьнёвыя Шалі,
і ейныя тата і мама яго на першых парах запрашалі.
Ейныя продкі былі элітай яйкагаловай:
бацька – доктар навук, маці – проста мэгера.
А кавалер іх дачкі меў тады восем з паловай,
і ўсе яго звалі Гоша, яна ж называла – Гера.
Яна ў свае сем была вундэркіндам і нават ведала троху
лаціну. Сказала яму: “Carpe diem! Перакладзеш з Гарацыя?”
Ён дома аскуб адрыўны каляндар. Пасьля стаяў на гароху, бо
бацька ня трапіў тады на цягнік, а ў бацькі рука гарачая…
Празь дзесяць гадоў ён сустрэў яе на ўзьбярэжжы Юрмалы.
Убачыў – і крочыў за ёю ў ваду, адчуўшы юр не малы.
Яна крычала: “тану!”, а ён: “не патонеш, мячык!” –
і перакладаў яе з хвалі на хвалю, як перакладчык.
Яна яму: “што ты робіш?”, а ён у адказ: “то и делаю!” –
і цалаваў яе проста ў Балтыйскае мора.
Потым ён жартаваў, што вышэйшы на цэлую
галаву. А яна яму: “Цэлую? Ты ж на яе – хворы!”
Ейны бацька сказаў: “Валіў бы ты ў войска, лепш у памежнікі!”

Ён адказаў: “Carpe diem! Гэта з паэзіі Рыма”.
Потым дадаў: “Вы – вяршкі грамадзтва, мы – яго вершыкі”.
Потым ляснуў дзьвярыма.
Ейная мама на кухні да ранку рыдала, як плачка,
павучала дурніцу восем гадзінаў запар:
“Доча, калі ты хочаш у лінгвістычны на перакладчыка, ён – твой фальшывы сябар!
Хочаш на перакладчыка – менш паэзіі!
Хочаш у лінгвістычны – сябруй з галавою!”
Уночы яна прысьніла, што яму галаву адрэзалі,
і яна размаўляла зь ёй, як з жывою,
любавалася ўсьмешкай зь беларусьфільмаўскім прыкусам
і пахавала ў вазоне з маміным фікусам…
Хтось назаве ўсё гэта казкай ці містыкай, іншыя скажуць:
“Жыцьцё – тэатар, які пачынаецца зь вешалкі”.
Сёньня яна працуе высокааплатнаю сынхраністкай.
Ён сядзіць у яе на шыі, перакладаючы вершыкі.

## ***ЗЯЛЁНАЯ ГАРБАТА***

Гэткае адчуваньне, што да мяжы засталося гадзіны дзьве, як тады, калі на ялінках у Беластоку расквіталі гірлянды; ты чуеш,
як малазнаёмая мова гудзе ў галаве,
як булькае ў торбе чароўны напой з Ірляндыі.
А недзе ЖЖ-карыстальніца зь немаўлём піша сваю ідылію, і цішыня, падзяляючы вашыя словы, здаецца няспыннай;
покуль ты, нібыта вясьляр акадэмічнага стылю,
набіраеш хуткасьць наперад сьпінай
у *intercity* ў адным вагоне з аматарамі паленьня, і на ролю ахвяры табе пасаваў бы любы, –
але недзе там немаўля, седзячы ў яе на каленях,
сьмяецца табе здалёк на ўсе чатыры зубы.
І ты дасылаеш ёй словы, якія ня будуць страляць гарматай, але павольна дзейнічаць далікатна запаранай зялёнай гарбатай,
каб яна ад іх не заплакала, на сьмех усяму тралейбусу, сярод падагрэтага зусім не зялёнай гарбатай плебсу.
Каб вершы чыталіся лёгка ў лістах і далучаным “вордзе”, не палілі агнём і не студзілі як лёд,
каб, робячы перасадку ў незнаёмым аэрапорце,

яна, зачытаўшыся, не спазьнілася на самалёт.

* * *

там, дзе нас няма, цяпер зіма
мроі з воску лепяцца па-свойску
канапляны водар задарма
і байцоўскі клюб заместа войска
там бывае добрай навіна
робяцца прыемныя адкрыцьці
хочаш волі – апынайся на
а ня хочаш – хоць на маргарыце
там да самай сьмерці маладосьць
на раство – халвы халяўнай торба
там, дзе мы пакуль яшчэ ня ёсьць
і таму – па азначэньні – добра
бізнэс-чортам лётае каваль
бо жадае туфлікі аксана
там, дзе нас пакуль яшчэ, на жаль
зрэшты, дзе мы ёсьць – зіма таксама

* * *

Малая, я выйшаў з дому пасьля вечаровых навінаў,
якраз пачынаўся трэці пэрыяд хакейнага матчу:
канадцы па поўнай праграме пярдолілі фінаў,
ці, можа, фіны канадцаў – тыя таксама мача.
А два з паловай гады таму ты плыла ў велікодных званах,
мазала шчасьце на хлеб і мне прапаноўвала лусту…
Пасьля пайшла ад мяне да першага лепшага нах-
імаўца і, як відаць па мэйлах, цалкам зьехала з глузду.
Хтосьці казаў, што ты ў інтэрнэт ходзіш, як на хаўтуры, пасьля
сябе пакідаючы мёртвыя жывыя дзёньнікі…
І пальцы бяруць дзьве актавы кірыліцы-клявіятуры,
і дрэнныя рыфмы б’юцца аб шкло манітора, як
матылькі-аднадзёнкі.
Яшчэ сем дзён, нібы сем самураяў, у баявой апранасе
ідуць паўзь мяне ў беспрабуднай цішы, на восьмы ж
я разумею: дзеля таго каб забыць адну вар’ятку, прынамсі
патрэбна другая вар’ятка, а дзе такіх яшчэ возьмеш?

І што там на юзэрпіку за голыя ногі? Ня сьцяміце.
І што там за прыгажуня сьмяецца ў начным трамваі
табе напаўабарота? Бо час сутыкаецца з памяцьцю,
час сутыкаецца з памяцьцю – і забівае.

### *АСЕНЬНЯЕ ЛІСЬЦЕ*

*Памяці Оскара Пітэрсана*

быў час калі на ялінкі
мяняюць звыклыя елкі
я вымяняў тры пласьцінкі
на вашыя дзьве кружэлкі
а потым на “каравáне”
сьлёзы змываў у ваньне
і жоўтае лісьце сумленна
ляцела з пустога сквэру
у рытме поля вэрлена
зь вітаньнем жаку прэвэру
і восень жазэфа касма
гучала быццам зіма
і восень зіму прысьніла
і зноў калядныя ёлкі
і нат па сьмерці вінілу
жыцьцё на канцы іголкі
і круціць і круціцца час
пакуль ня скончыўся джаз
хай шчокі надзьме гілесьпі
і неба хопіць у лёгкіх
і вашая тэма ўзьлезе
па гуках яго далёкіх
а мы прыслухоўвацца станем
шчасьлівых калядаў астатнім
*24-25 сьнежня 2007*

### *ШЧОДРЫ ВЕЧАР*

Вечар на мытні. Католікі п'юць заварку.
На ўкраінскай, вядома, *сідають їсти* .
На беларускай, магчыма, кульнулі чарку.
Добра ім, бульбашам, яны атэісты.

Сьнег на заставах такі ж, як у Вільні й Рызе.
Зорнае неба гоніць думкі аб хлебе.
У Эўразьвязе эканамічны крызыс:
эканомяць сьвятло – і зоркі відаць лепей.
Трое бадзягаў. Два зь візамі, трэці бязь візы.
Твары такія, што можна крычаць: “горка!”
Кажуць, па Эўраньюс выступалі ганцы зь Пізы,
быццам на ўсход ад шэнгену гарыць зорка.
Пэнсыянэр-фальксваген – нібы вярблюд аднагорбы.
Фатаробат кіроўцы вядомы мясцовым уладам.
На рухомую стужку складаюць свае торбы.
На маніторы ў мытніцы: золата, сьмірна, ладан.
Першы з пакетам прэзэнтаў. На пакеце багоўка.
Ясна, што зь беластоцкага супэрмаркету. Пагаварым-с?
Пан Бальтазарскі Караль, дзе ваша страхоўка?
Мэта паездкі?
Пішыце “зорны турызм”.
Вы, Мэльхіёрас Валхваўскас, пачаму без
візы? Па ксэраксе?! Групавой?!! Трохгадовае даўніны?!!!
Хто падпісаў дазвол? Генэрал-лейтэнант Анубіс?
Так, харэ выдурняцца. Ну вы й зьвіздуны!
Раптам: “Здароў, Касьпяровіч! Зямляк! З-пад Валожына!
На Каляды дадому – у нашым стылі…”
Тут здараецца цуд, хоць і не паложана:
ўсіх траіх – нават лабуса – прапусьцілі.
Ражджаство ў Беларусі? Будуць прыгоды на сраку вам –
падарунак для мага. (Валхва? Караля? Зьвіздуна?)
Недзе над Ракавам
вернікам і абыякавым,
нібы зорка зь ялінкі, сьвеціць яна.

***СУСЕДЗІ***

Калі ты раптоўна зрываесься з ложку ў чвэрць
на трэцюю ночы, бо ў дзьверы нехта пазвоніць,
ня бойся: гэта ня злодзей, ня мент і тым больш – ня сьмерць,
а проста сусед памыліўся званком, шукаючы тых, хто гоніць.
Таму што за сьценкай ад вас жыве ідэальная пара,
далёка ад журналістаў і аўтараў вікіпэдыі,
трыццаць гадоў душа ў душу, гандлюе сваім таварам:
яна разьлівае ў бутэлькі, а ён развозіць іх на мапэдзе.
Мы ведаем іх даўно: просяць на "ты" і па імені,
кажуць, з траіх дзяцей дома ніхто ня ўседзеў.
Бо дома са скрыняў бульбу тырацы разам са скрынямі.
А скажаш – так будуць гнаць, што лепш – самагонка суседзяў.
Часам зойдзеш да іх, пазычыш на сьвяты зэдлікі –
водар такі, што сьлёзы вышыбае з вачэй.
А ён насустрач ніколі ня выйдзе без камізэлькі.
А яна папярэджвае: "Ён глухі, ты грамчэй".
Яны так хадзілі пад ручку, што мы ледзь ня скручвалі шыяў…
Потым мы зьехалі. Кажуць, і ў іх ніхто цяпер не жыве.
Хочацца верыць, яны да сына перабраліся ў Кіеў.
Ці да старэйшай унучкі: здаецца, яна ў Літве.
Так і ўяўляю, як іх у пляцкартным вагоне трасе.
Цяжка дастаць матрасы, не паламаўшы карку.
Юная спадарожніца коўдры ім прынясе
і дапаможа запоўніць іміграцыйную картку.
Лямпы пагасьлі. Паліцы засьцелены. Шклянкі зьвіняць ад руху.
Шчыльны туман за вокнамі падае на зямлю.
"Што ты кажаш, ня чую? Ды не крычы мне ў вуха,
я яшчэ не аглух!.. Так, я таксама люблю".

## *ДЗЯДЫ*

*Драматычная паэма*

*КАРАТЭІСТ*
*(замест уступу)*

сем гадзін на паўднёвы ўсход на старэнькім “ЛАЗе”
і вясна за Кармой, і ты ўсё лета ў Чачэрску
дзе сусед-вэтэран, што ведае ўсё аб празе
і смазе з раніцы, лаецца не па-чэску
дзе нас на летні час пераводзяць крыкамі пеўні
у кінатэатры “Акцябар” піраты і магараджы
а вечарамі з плястмасавай крышкі ўсё больш упэўнена
п’ецца мядзьведжая кроў на разваліна ратушы
шыкоўныя “ГАЗ” і “ЗІЛ” на пляцоўцы ля ДОСААФа
сто дваццаць км на сьпідомэтры і мы амаль неўміручыя
і хто мог знаць, што мясцовы маёр, буйнагабарытная шафа
так спрытна бегае й так балюча вушы накручвае
і вечаровыя рамантычныя падарожжы
з мэтай калгасных яблыкаў стырыць у садзе
і першыя траўмы – купаньні старэйшых суседак у Сожы
у таварыстве мальцаў, зь якіх кожны чацьверты сядзе
і Сож быў глыбокі, і віскат быў гучны, і малец быў хуткі
і пад вадою добра чыталіся ўсе іх рухі
і мы, ня ведаючы, як правільна пішацца ПРАСТЫТУТКІ
на прыбярэжным пясочку пісалі ШЛЮХІ
гэта праз год усё выглядала проста
бусі марусі, танькіны станікі, ленкі каленькі
і нязьменны стандарт 90/60/90
хлопцы ўносілі па 90 капеек, а я 60 як самы маленькі
а пасьля міма касы ў краме – лепей ужо маўчы
слоік зь бярозавым сокам – першы сур’ёзны твор мой
і на дзіцячай пляцоўцы недзіцячыя махачы
проста каб разагрэцца ці пахваліцца формай
помню шчарбатага хлопца – пярэднія нехта выбіў
шорты ніжэй за калена і губы ў таматным соўсе
ён замахнуўся двойчы і двойчы схібіў
а на маю нагу потым сам напароўся
думаю, зараз заб’е, а ён хутка залез на плот

і залізвае там баявыя раны
і раптам як закрычыць на ўвесь свой таматны рот
ТЫ ЯШЧЭ ЖЫЗЬНІ НЯ БАЧЫЎ КАРАТЭІСТ ЗАСРАНЫ!
яшчэ памятаю дзьве бойкі ў гонар дзявочай плоці
адна была з дошкамі, іншая з парай лёгкіх гантэляў
але нішто не закрэсьліць байца на чачэрскім плоце
які два разы замахваўся і два разы не пацэліў
і цяпер, калі нехта па п’яні жадае біцца
я адказваю ветліва: “слухай, наконт біцьця
пры ўсёй калясальнай павазе да тваіх мэга-біцэпсаў
ніхто з нас – ні я, ні ты – яшчэ ня бачыў жыцьця”

*1. ПРЫВІД*

*у чорным-чорным лесе*
*за чорнай-чорнай ракой*
і ўсе чачэрскія дзеці штовечар гублялі спакой
*на чорнай-чорнай паляне*
і зырылі ў рот дзевяцігадовай Ульляне
*стаіць чорны-чорны дом*
*а ў ім чорны-чорны…* замоўкні, дурань, ніякі ня дзядзя Том
*у чорным-чорным пакоі*
заткніся, разумнік, чорт ведае, што такое
*на чорным-чорным ложку чорная-чорная падушка*
не рагачы, Андрушка
*у чорнай-чорнай падушцы чорная-чорная голка*
цішэй, Міколка
*з чорнаю-чорнаю ніткай*
хто хоча працягу – частуй шакаляднай пліткай
і мы пагаджаліся з гэтай драпежнай палітыкай
бо ў Валеркі бывалі цукеркі
жуйкі ў буржуйкі Валі
і ўсе давалі
дык вось, прынесьлі дадому бохан чырвонага хлеба
іншага ў краме не засталося, а есьці трэба
елі мама і тата, і сын, і сястра ягоная
(а буханка чырвоная!)
толькі заснулі, як у сьцяне адчыняецца дзьверца…
АДДАЙ МАЁ СЭРЦА!

міжгародні аўтобус спыняецца на прыпынку
маці выбегла на хвілінку
пакінуўшы ў ім дзяўчынку
праходзіць хвіліна, і дзесяць, а мамы няма і няма
дзяўчынка выходзіць сама
шукае маму – дарма
мінае восень, зіма
а тата-міліцыянт яе ўсё ня знойдзе
і толькі ўлетку будаўнікі, зламаўшы асфальт,
знайшлі валасы і пазногці
на глыбіні два з паловай мэтры
а ўночы з мамінай шафы зьявіўся прывід у маміным швэдры
і тут найстарэйшы з нашай кампаніі, Коля
абсалютна бясплатна пагнаў гісторыі, што яму ў школе
апавядаў прасунуты прэпад па маляваньні
пра труп, схаваны ў лядоўні, пра кроў нябожчыка ў ваньне
пра тое, як муж сваю жонку замураваў у сьцяне
мы слухалі, нібы ў сьне
як сэрца забітага стукала пад паркетам
настаўнік быў геніем, вучань – таксама някепскім паэтам
і мы траплялі ў адаптаваныя для райпо
пекла Лаўкрафта і рай По
толькі тут мы заўважылі, што сапраўды ўжо вечар
што згусьцілася цемра і ў доме насупраць
на словах “…Маргарэт Тэтчэр…”
радыё змоўкла раптоўна, а дом наагул
карыстаўся нядобрай вядомасьцю
гаспадары неяк зьніклі з усёй іх маёмасьцю
а бабуля казала, што добрых людзей ніколі ў ім не жыло
часам у вокнах запальвалася, потым гасла сьвятло
часам гучала і раптам змаўкала радыё
вось і цяпер: сядзім мы на ганачку й самі ня радыя
што калі гэты дом – насамрэч дом з прывідамі?
прывіды людзі сур’ёзныя, помняць абразы з крыўдамі
тэрарызуюць жывых злачынствамі даўнімі
нават такімі, як мы, не пагрэбуюць даўнамі
тут усе спалатнелі
Таня і Сьветка, і нават сястра яе Нэлі
біла дрыготка Жэню
што сарамліва хаваў свае пальцы ў кішэню

я ўжо маўчу пра сваё трымценьне
раптам над намі навісьлі два велізарныя цені
зарагатаўшы на два галасы нелюдзк **і** я:
ШТО, ГАРАДЗКІЯ?!
шчэрачы чорныя зубы й чырвоныя дзясны
Воўка Уздоўскі і Чэчык, граза Калгаснай
з крыкам НЯ ССЫ!
кідалі ў валасы
Сьветцы, якая ляжала са складзенымі на грудзях ручкамі
як і належыць спалоханай прывідам даме
лопухавымі калючкамі
а па-чачэрску – ДЗЯДАМІ

*2. ОЛІВЭР ТВІСТ*

Слухай, навошта агульны сшытак?
Могуць заўважыць, бо тоўсты, а па-другое, які зь яго ўжытак?
Выдраць старонку – дык прыйдзецца дзьве,
і ў кішэню штаноў не пакласьці.
Ты зразумей, не ў памеры шчасьце!
Лепей блакноты красьці.
Тырыць блакнот трэба з сэнсам.
Скажам, вось гэты з букетам і сэрцам –
пасуе толькі дзяўчынцы
у занядбанай правінцыі.
Узяўся тырыць – давай нам
з модным сучасным дызайнам.
Добра, хай будзе гэты, з камбайнам.
Спыняць на касе – сябруй з галавой.
Скажаш, што гэта твой,
што носіш заўсёды з сабой, бо рыхтуесься так да дыктовак.
Для даставернасьці можаш стырыць вунь той аловак.
Не расслабляйся, потым яшчэ ў прадуктовы.
Гатовы?
Помні, ня суй пад майку пірожныя заварныя.
Потым ніхто не адмые.
Іншая справа – коржык.
Восем – пад майку, адзін – для алібі ў кошык.
А заварныя цягні адразу ў пакеце.
Дзесяць ня трэба. Саня цяпер на дыеце.

Шухер! Змывайся! Ды не туды.
З горкі і ў роў, празь дзяды…
Увесь у дзядах – гэта мінус.
Добра, паказвай, што вынес.
Кніжка? “Олівэр Твіст”?
Мне ў прэзэнт? Ты садыст?
Што мне рабіць з гэтым… Дыкенсам?
Мне без патрэбы. Выкінь сам.
Выбраў бы нешта з добраю назвай.
Схавай. Пацанам не паказвай!

*3. ДРАБІНА ДЗЯДЗІ ЯШЫ*

Яна ляжала ў гародзе й бабуля казала: “Наша”,
ды ўсе памят ***а*** лі: драбіну пазычыў нам дзядзя Яша.
Прычым не задарма – адносіў яму трохлітровік соку я.
Тады ён спытаў мяне: “Гэта драбіна – доўгая ці высокая?”
Я сказаў, што высокая. І тады ён паклаў яе на зямлю.
У гэты момант я ведаў, за што яго не люблю.
Драбіна была жалезная. Дзядзя Яша сам яе зварваў.
Бацька круціў каля скроні пальцам, кажучы: “Варвар!”
А потым – іронія лёсу – мы самі яе папрасілі.
Яша цешыўся болей, чым соку, таму, што прагрэс яшчэ ў сіле.
Драбіна нам прыдалася. Быў акурат пачатак
зьбіраньня вішняў. Ля самага плота ў шэраг стаяў дзясятак
красуняў зь цёмна-вішнёвай жывіцаю на камлі,
і што магло быць тады смачнейшае на зямлі?
Вішні былі старыя. Здаецца, апошні год
было столькі ягад. І кожная для нас – забаронены плод.
Першымі ўзьлезьлі на дрэва мае стрыечныя сёстры.
Момант суперніцтва ў нас заўсёды быў вельмі востры,
а тут яшчэ гэтыя вішні. Я лезу, а дзьве сяструхі
косткамі зьверху кідаюцца. Я паскараю рухі.
Абяцаю, што зараз замучае іх аддача!
Я не паводзіўся высакародна, мой шляхетны чытачу!
Паўзу на галіну за імі па прынцыпе трэці лішні…
Пяці сэкунд не мінула, як сёстры адны засталіся на вішні.
Лячу цераз плот на рабіну, а потым, гора-садоўнік,
ламаю рабіну і падаю ў найгусьцейшы дзядоўнік.
На крыкі і трэск прыбеглі дзед з бабай, бацька і мама,

і сёстры спусьціліся зь вішні палюбавацца таксама.
Пад плотам ляжала доўгая (так, дзядзя Яша!) драбіна,
зь іншага боку – я, са мной у абдымку – рабіна.
Продкі схіляюцца нада мной, і пытаюся ў продкаў я:
“Слухайце, а рабіна – нізкая ці кароткая?” ---
З таго часу ў мяне ёсьць рахункі з гародамі і садамі,
драбінамі і рабінамі, вішнямі і дзядамі.
Бо для некага дзяды – гэта сьвята ў лістападзе,
а для іншага дзяды – вэтэраны на парадзе,
для мяне ж – абрад атрасаньня калючак
і мой удзел у абрадзе!

*4. СЬВЯТОЕ*

А зараз не пра дзядоўнік. Зусім не пра тое.
На ўскрайку Чачэрску ёсьць возера з назвай Сьвятое.
Бабуля казала, на гэтым месцы калісьці была царква,
вялізная і надзвычайнага хараства,
якая аднойчы з усімі званамі пайшла на дно.
Кажуць, што часам у цішы тыя званы чутно,
а ў найясьнейшыя дні
макаўку можна разгледзець у глыбіні.
Мы там купаліся й проста культурна бавілі час.
Раз на выходных, за пару крокаў ад нас,
на прыбярэжнай траве сядзелі салдаты.
Двое дзядоў (адзін зьлёгку, другі ўжо ня зьлёгку паддаты).
Трэці салдацік, які выглядаў, як дух,
апавядаў ім пра возера. Тыя слухалі ўдвух.
*Як? Як ты кажаш? Званы зазьвінелі самі?*
*І патанула? З народам? З папом? З абразамі?*
*А абразы дарагія былі, як думаеш, Лёша?*
*Слухай, няхай малады іх дастане, а нам будуць грошы!*
*Чуеш, што кажуць? Давай! Што “нашто”? А на тое!*
*Правільна, Лёха! Загнаць духа ў возера – гэта сьвятое.*
Тут Лёха сарваў зь яго шыі і кінуў у возера крыжык.
*Плыві за ім сьледам!*
*Пасьля нам раскажаш, дзе быў, чыжык-пыжык!*
*Хутчэй, а то зараз па галаве!*
Дух разьдзяецца, заходзіць у возера, потым плыве.
Трохі адплыў, а пасьля пад вадой зьнікае.

І не вынырвае, сволач такая.
А ў тых кісла робіцца ў роце ад думкі, што скажуць у роце.
Крычаць, разьдзяюцца, ныраюць за духам…
А той незаўважна ўсплывае ў чароце,
хвілінку любуецца іх падводнымі танцамі,
сьмяецца, хапае адзежу й змываецца ў бок аўтастанцыі,
купляе квіток на Карм***у***, а пасьля ўсю дарогу псуе сабе к***а***рму,
бо мроіць пра возера, што затапіла б яго казарму.

*5. ЯК Я ЎПУСЬЦІЎ ВЯДРО*

Раз-два-тры-чатыры-пяць –
пачынаю іх зьбіраць.
Нагінаюся за дзедам,
валачу свой посуд сьледам
і сабранае дабро
гучна падае ў вядро.
Гэта вам ня йсьці ў грыбы,
доўга крочыць на абы.
Тут вы на адным кусьце
цэлы слоік зьбераце.
Нецярплівым проста рай:
нахіліўся – і зьбірай.
Па лістах вяду рукою:
“Выбачайце, непакою!” –
і ў руках чатыры жмені
застаецца іх, ня меней.
Ах, як радуецца сэрца!
Напаўняецца вядзерца.
А ў вядзерцы не суніцы,
не чарніцы, не клубніцы,
не дурніцы-буякі –
каляраджкія жукі! ---
Засталася чвэрць вядра,
але дзед сказаў: “Пар ***а*** .
Зараз мы іх будзем трушчыць.
Толькі помні: жук трывушчы.
Лепей трушчыць, каб ушчэнт,
аб асфальт ці аб цэмэнт,
ды патроху, па чарзе”.

Дзед гаворыць – жук паўзе
па вядры. Гляджу на вязьня:
“Зараз будзе табе лазьня.
Мой суворы дзед такі.
Беражыцеся, жукі!”
Кожны мітусіўся, кожны
быў такі бездапаможны.
Зрэшты, што я ім, ахоўнік?
І ўпусьціў вядро ў дзядоўнік.
А яны як ламанулі!
Выляталі, быццам кулі.
Мне на хвілю зьнесла дах,
а яны – ужо ў дзядах…
Дзед злавіў, але ня ўсіх.
Дзед сказаў мне, што я псіх.
Дзед паскардзіўся бабулі,
абяцаў пазбавіць бульбы.
Але я не шкадаваў,
што жука пашкадаваў.

*6. НА КАРОВУ*

На ганку, на дзьвюх лавачках за столікам,
сядзелі зь Юрам, Славікам і Толікам
і трэці запар дзень гулялі ў карты:
занятак варты,
калі партнэр упарты й сам змагар ты.
А пойдзе карта – гэта вам ня мапа!
Гулялі ў “гаўналяпа”.
На што гуляць, каб сэнс наш меў занятак?
На распрананьне? Дык няма дзяўчатак.
Гуляць сур’ёзна? Скончыліся грошы.
На інтарэс? Занятак нехарошы.
На пстрычкі? Біць сяброў ніхто ня стане.
Сышліся, што гуляем на жаданьне.
Вядома, хто застаўся гаўналяпам…
Каб знаць, што пажадае Толік – кляпам
заткнуў бы рот, бо ён са мной дарма так:
я быў павінен заўтра пасьвіць статак!
Агульны статак – трыццаць тры каровы,

і раз на месяц – графік несуровы,
як на сям'ю, бо кожная ў чарзе.
(Ухілісься – сумленьне загрызе.
А шчэ суседзі! Шмат бы хто з суседзяў
сумленьне ў справе "грызьці" б апярэдзіў.) Ды нашая чарга яшчэ праз тыдзень,
а Толікава – заўтра. Толік – злыдзень!
Устаць за чвэрць гадзіны пад два гімны.
На мацюкі і туалет інтымны
згубіць хвілінаў дзевяць або дзесяць,
язык і пугу на плячо павесіць –
і можна сьмела шыбаваць на луг
з каровамі і купкай недалуг.
Наперадзе ішоў дзядуля Толіка
хадою вэтэрана й алькаголіка:
шмат ведаў пра жанчын і мэдалі,
каторыя далі і не далі.
За ім – ягоны сябар і пляменьнік,
мясцовы рыбнагляд і шызафрэнік,
па сумяшчальніцьве паэт-аматар:
паслухай верш – дасьць пакатацца катэр.
Наступны – бацька Толі, трактарыст,
спартсмэн і фан каманды "Джудас прыст".
Ягоная палова – цёця Каця,
што працавала ў лодачным пракаце.
Будзь Толік, дык сабралася б сям'я.
І ў давяршэньне ўсёй клаўнады – я.
Ідзем і размаўляем з "рыбнадзорам":
– Андрэйка, а ты вершы любіш? Сорам!
Як не любіць высокай прыгажосьці?
Вось ты паслухай, пачытаю штосьці:
"А над Чачэрскам зор, нібы гароху!.."
Я ўжо таксама вершаваў патроху
і, галяком купнуўшыся ўначы,
мог у адказ мэтафару сьпячы,
што зор там, як укусаў камароў
на срацы. Параўнаньне будзь здароў?
Ды вернемся з вышыняў да кароў!
Над вухам авадні вясёлай фугай.
Адмахваемся – хто хвастом, хто пугай.

Парнакапытным хораша на траўцы.
Мужчыны абмяркоўваюць, як знаўцы,
далікатэсы з торбы цёці Каці,
якімі ўчора грэбавалі ў хаце.
Салодка сьпіцца на чачэрскім сонцы
пярэстай халмагорцы і херсонцы,
цялушцы Зорцы і старэнькай Лысцы.
Сьпіць вэтэран, як немаўля ў калысцы,
пакінуўшы загад – глядзець Чарнушку,
бо гэта можа зладзіць нам вайнушку:
штодня ўцякае з лугу, чорт рагаты,
і іншых за сабой вядзе дахаты.
“Рагаты чорт” хутчэй была бязрогай.
Штодня ўцякала іншаю дарогай,
ня кожны раз трапляючы дадому.
Шукай пасьля й ці знойдзеш – невядома.
Ну, так і ёсьць. Бяжыць. Забудзь пра стому.
Дарэмна я гуляў у карты ўчора!..
Бягу за ёй, наперадзе Чачора,
фарсірую раку, як быў, у ботах,
лячу ўгару і пераводжу подых
адно каб азірнуцца на пагорку…
“Чорт! Мужыкі, трымайце Лыску й Зорку!”
Ці дзень такі, ці пасьвілі нягегла,
але палова статку такі зьбегла.
Ганяў яе па пустках і садах.
Вярнуўся, згодна з назвай, у дзядах,
зь вялікім гузаком на галаве,
паабстрыкаўшы рукі ў крапіве.
Але зладзіў за Замкавай гарой
і потым пачуваўся, як герой.
А цераз тыдзень пасьвіць яшчэ раз…
Пасьля крычаў картыжнікам: “я пас!”
А калі хто казаў: “не на карову”,
я пачынаў сьмяяцца нездарова.

## *7. КАМАНДЗІР БАБСКАГА БАТАЛЬЁНУ*

Гэты кашмар пачаўся з прычыны бульбы.
Не, не спаймалі нікога з чужою бульбінай, скуль бы!

Проста адна малая паненка
з прозьвішчам рэдкім на “енка”
(што вельмі важна, пры сымпатычным сьведку)
неяк прасіла сяброўку-суседку
дапамагчы абрацць пяць кіло
бульбы, а той было западло.
Першай, вядома ж, крыўдна. Хацела абразіць “сучкай”,
ды выхаваньне ўзяло сваё – абмежавалася “беларучкай”.
Гэтая штось недачула, падумала, што “беларускай”,
з намёкам на бульбашоў –
і пачалося шоў.
Тую, на “енка”, не пачаставала сушкай,
абазвала “хахлушкай”
і для нагляднасьці – добра агрэла падушкай.
Можа, усё абышлося б, ды сьведка быў сапраўдны ўкраінец,
на дапамогу пакрыўджанай кінуўся, як марскі пехацінец,
вырваў падушку ў злачынкі,
выцер соплі ў пабітай дзяўчынкі
з выглядам малайчынкі, што добрыя робіць учынкі.
А ні халеры!
У “беларучкі” свае кавалеры.
Вечарам ён атрымаў ультыматум на брудным кавалку
шпалеры:
“Зафтра ля рова
будзе цібе хярова,
бо ты і сам ідыёд і дзефка твая карова”.
Проста існуюць традыцыі
па-за ўладай бацькоў і міліцыі,
як шанаваная тут гадамі
ПЕРАСТРЭЛКА ДЗЯДАМІ.
Першы стрэл прыняў на сябе валасаты Данік,
а другі рыкашэтам трапіў Таньцы за станік.
Трэцім стрэлам Славіку з Гомеля ледзь ня выбілі вока.
Славік крыкнуў, што пойдзе дадому, бо нешта моцная сьпёка.
Нос разьбілі малому Ваню чацьвертым стрэлам –
над камандаю гарадзкіх запахла гарэлым,
але ў момант, калі іх войска ўжо страціла трох сяброў, мой
лірычны герой якраз праходзіў паўз роў.
“Нашых б’юць!” – пранеслася ў думках,
а потым: “Куды б схавацца?”

Але раптам заўважыў тую, зь якой ледзь дамовіўся цалавацца.
Тры дзяўчынкі ў адной камандзе, а хлопцаў ужо няма,
і зьяўляецца шанец дамовіцца з тымі дзьвюма.
Як-ніяк у менскіх вайнушках ён быў падпалкоўнікам –
і ён рынуўся ў гушчу падзеяў зь вялікім кустом дзядоўніка.
*А дзе ж тыя ваяры,*
*Што дзядоўніку сябры?*
*А дзе ж тыя іх дзяды,*
*Што лятуць туды-сюды?*
*Каб ачысьціць гэты рой*
*Ад варожых ваярой!*
Скажаце, што “кічуха”, скажаце, што “бытавуха”,
а ў яго пасьля ад удару з тыдзень гарэла вуха.
Але зараз ён Гойка Міціч і перамогу сьвяткуюць апачы, і
бледнатварыя ворагі дражняцца, адступаючы:
“Камандзір бабскага батальёну, камандзір бабскага батальёну!”
А ён у Чачэрскім раёне – кароль раёну.

*8. ЯК Я ПРАВЁЎ ЛЕТА*

Першыя ўрокі. Мусоліш аловак і сьцёрку.
Тэма на дошцы – пішы, як праводзіў ты лета.
Пішуць, казлы. Ты таксама хацеў бы “пяцёрку”,
толькі пра што тут пісаць, як раскажаш пра гэта?
Як ты глядзеў тэлевізар тайком ад бабулі:
над галавою імгненьні сьвісьцяць, нібы кулі,
ледзь нашы гол у адказ забіваюць шатляндцам –
бабця ў адказ прабівае па задніцы сланцам.
Як ты з набітых кашоў выкідаеш лісічкі:
месца няма ўжо, а белых грыбоў усё болей.
Як літаральна за тыдзень мяняюцца звычкі
і геніяльна смакуе партвэйн дзядзі Колі.
Як па дарозе дамоў спатыкаўся, бы Чаплін.
Як, пачатковец-нудыст, ледзь ня зьмерз у Сажы
і, каб сагрэцца, – ударыла ў голаў мача, блін! –
сена калгаснага стог падпаліў. Раскажы!
Як ты глядзеў у кіно “Чалавека-амфібію”,
рот адкрываючы прагна спайманаю рыбаю.
Ўражаны бацька назаўтра купіў табе ласты.
Славік зайздросьціў: “Тапелец, а не вадалаз ты!”

Як з Засажэўскага лесу дамоў на папутцы –
першы твой раз, як сказаў бы цяпер, аўтаспынам.
Як ад дажджу ў тэлефоннай хаваліся будцы
з той, што пасьля назаве цябе сучыным сынам. ---
Дзе гэта ўсё? Аўтастанцыя. Ціша. Бязьлюдна.
Цераз пітомнік (бабуля казала “пітоўнік”)
крочыш паволі. Зьмянілася ўсё абсалютна.
Толькі дзядоўнік, дзядоўнік, дзядоўнік, дзядоўнік.
Пафарбавалі ў зяленіва дом бабы Валі,
вуліцу неяк бяздарна заасфальтавалі,
роў закапалі – і не засталося сьлядоў.
Толькі дзяды, нібы ўнукі тых вашых дзядоў.